ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# ШЛЯХ СТУДЭНЦТВА

ОРГАН ВЫКАНПРОФБЮРО
ПРАЛЕТСТУДУ
БЕЛ. ДЗЯРЖ. УНІВЭРСЫТЭТУ

№ 6—7

МАЙ—ЧЭРВЕНЬ

1927—1928

МЕНСК

# ЗЬМЕСТ



---

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!






# ШЛЯХ СТУДЭНЦТВА

ОРГАН ВЫКАНПРОФБЮРО
ПРАЛЕТСТУДУ
БЕЛ. ДЗЯРЖ. УНІВЭРСЫТЭТУ

№ 6—7

МАЙ—ЧЭРВЕНЬ
1927—28

МЕНСК

## А. Шматкоў

# У дапамогу вёсцы

Навучальны год скончыўся. Гарачая заліковая сэсія пранізвае ўсё жыцьцё апошніх дзён студэнтаў перад вакацыямі; кожны імкнецца здаць больш залікаў, каб мець больш часу для летняга адпачынку. І ў гэтыя самыя гарачыя дні нашага БДУ, пры максымальнай напружанасьці студэнтаў, мы не павінны абыйсьці пытаньня падрыхтоўкі да грамадзкай працы ў часе летніх вакацыяў, якая павінна быць злучана з разумным правядзеньнем адпачынку.

У гэтым годзе трэба выкінуць з галавы ўсякія дыскусіі наконт патрэбнасьці вядзеньня грамадзкай працы студэнтамі на вёсцы ў часе летніх вакацыяў. *Умовы жыцьця і нашы задачы патрабуюць скарыстаньня ўсіх крыніц спрыяючых хутчэйшаму ажыцьцяўленьню культурнай рэвалюцыі на вёсцы і яе калектывізатарскаму гаспадарчаму ўздыму.* Вось чаму нашы партыйныя, прафэсыйныя і грамадзкія арганізацыі чакаюць прыезду студэнтаў і лічаць сябе ўправе патрабаваць ад іх дапамогі ў гэтай працы.

Мы з свайго боку павінны паставіць задачай каб ня было ніводнага студэнта па-за вядзеньнем грамадзкае працы на вёсцы, памятуючы што: „Студенчество, ведущее общественную работу среди крестьянства (дома крестьянина, избы читальни, массовая работа, агроработа и т. д.), в Красной армии и в секциях советов является *активным помощником партии и советской власти в деле поднятия культурного уровня трудящихся масс*" [1]).

Такая ўстаноўка выключае абгаварэньне пытаньня аб дабраахвотнасьці, ці абавязковасьці вядзеньня грамадзкай працы на вёсцы. Зусім ясна, што студэнт не зразумеўшы гэтага пытаньня будзе прыкрывацца „фігавым лістком" дабраахвотнасьці і на яго працу мы ня можам спадзявацца.

У гэтым навучальным годзе на летнія вакацыі ў вёску едуць больш 1000 чалавек. Мы можам спадзявацца і патрабаваць, каб большасьць з іх праводзіла грамадзкую працу.

Вынікі-ж мінулага году кажуць нам аб вельмі няпрыгожым становішчы ў гэтым напрамку, што прымушае выпяціць гэта пытаньне ва ўсёй шырыні. Ад'яжджала на вёску ў мінулым годзе ня менш чым у гэтым, і з тысячы студэнтаў, якія ў мінулым годзе правялі вакацыі на вёсцы, прадставілі веды і даведкі аб вядзеньні імі грамадзкай працы *толькі 14 чалавек.*

Будзем лічыць, што гэта лічба ня зусім правільная, што мабыць ня ўсе прадставілі зьвесткі і таму яна меншая за запраўдную. Падвоім, патроім яе і то мы будзем мець ад 1,4% да 4,2% студэнтаў, рабіўшых

---

[1]) З пастановы 1-й Усесаюзнай культнарады Пралетарскага студэнцтва 1927 г. ст. 20. (Падкрэсьлена намі А. Ш.).

грамадзкую працу. *Гэта невялічкая група, як капля ў моры, не дае нам ніякіх падстаў казаць аб якіх-небудзь дасягненьнях у гэтай галіне.* Справу адрыву ад вёскі ў часе вучобы, адрыў ад дапамогі ў гаспадарчай і культурнай працы вёскі трэба лічыць небясьпекай, якая ў гэтым-жа годзе павінна быць, калі ня зьнішчана цалкам, то ў значнай меры папярэджана.

Трэба з усёй яскравасьцю паказаць студэнцтву гэты недахоп, і, ня гледзячы на ўсю гарачлівасьць і напружанасьць у час заліковай сэсіі, студэнцкія арганізацыі павінны падрыхтаваць (калі празявалі дагэтуль!) масы ад'яжджаючых на вёску студэнтаў да вядзеньня там грамадзкай працы ў розных галінах.

У вёсцы мы назіраем цяпер працэс ажыўленьня ўсіх відаў гаспадарчай і культурнай работы, дзякуючы адпаведнай палітыцы партыі і савецкай улады, у сэнсе яе перабудовы на сацыялістычны лад, і студэнцкая маса, увяўшая сабе частку культуры, павінна прыкласьці яе да паляпшэньня вясковага дабрабыту.

Невялічкая група „грамадчыкаў“, працаваўшых у мінулым годзе, дае шэраг *павучальных прыкладаў, як трэба працаваць і што можна зрабіць.* Студэнтка *Горфінкель* працавала ў сяле Леніна, Аршанскай акругі, паўтара месяцы загадвала яськямі. Астатні час была нянькай. У яськях 25 дзяцей... Кожны тыдзень праводзіла сходы з маткамі, гутарыла аб тым, як даглядаць дзяцей, аб гігіене жанчыны, як змагацца з паносам і г. д. Быў запрошан мяйсцовы доктар, які прачытаў некалькі лекцый... З актыву жанчын быў арганізаваны мацярынскі камітэт яськяў, які праводзіў пасяджэньні штотыднёва... Сабрала падпіску на 15 экз. часопісі „Беларуская работніца і сялянка“... Па даручэньню парт'ячэйкі была ў 3-х бліжэйшых вёсках і рабіла даклады аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку...

Гэты прыклад паказвае, што можна зрабіць у вёсцы пры наяўнасьці жаданьня і зацікаўленасьці. *Неабходна толькі зразумець задачу і ролю студэнта ў дапамозе вёсцы і мы знойдзем шэраг стрыжняў прыстасаваньня студэнцкіх сіл.* Мы ня думаем у адным артыкуле абхапіць усе віды і галіны грамадзкай працы на вёсцы, дзе дапамога студэнта зьяўляецца вельмі і вельмі неабходнай[1]). Возьмем для прыкладу такія галіны як: *калектывізацыя сельскай гаспадаркі—землякўпарадкаваньне і пераход на шматпольле, каапэраваньне насельніцтва, правядзеньне пасеўнай кампаніі, распаўсюджваньне газэт, культурнаасьветная праца (лекцыі, даклады, дапамога ў працы хаты-чытальні, падрыхтоўка ў ВНУ і рабфак) і г. д.*

Не распыляючыся па ўсіх відах гэтае працы, мы лічым, *што ў аднэй ці двух галінах кожны студэнт зможа прынесьці вялікую карысьць,* калі ён на падставе мясцовага матар'ялу ня толькі раскажа, але і пакажа выгады сельска-гаспадарчай каапэрацыі, пасеву культурных траў праз пазыку (контрактацыя), зьбярэ некалькі дзесяткаў падпісчыкаў на газэту (што часам лічыцца дробязьзю, аб чым сьведчаць факты адмовы студэнтаў зьбіраць падпіску на „Беларускую Вёску“), дапаможа насельніцтву ў выпрашэньні розных спраў, зьяўляючыся часам у вёсцы адзіным пісьменным чалавекам і інш. *Усё гэта дасьць вялікі штуршок у справе паляпшэньня вясковага дабрабыту і культуры вёскі.*

---

[1]) Для ўказаньня форм і мэтадаў працы студэнтаў на вёсцы ЦБ пролетстуду пры ВЦСПС выпушчаецца „Памятка студэнту“, плянамі якой і трэба кіравацца.

Вопыт мінулых гадоў паказаў, што студэнты, якія вялі грамадзкую працу, бралі на сябе шмат заданьняў, распыляліся ў працы па розных галінах, што, ў рэшце, не давала мажлівасьці дабіцца канкрэтных вынікаў і эфэкту ў выкананьні пастаўленых задач.

Было таксама цэлы шэраг выпадкаў, калі шмат студэнтаў нават не жадалі зафіксаваць свой прыезд у райстудбюро, робячы з сябе паказнага інтэлігэнта, гледзячы на ўсё „з сваёй унівэрсытэцкай вышыні".

Такіх студэнтаў не павінна быць. *Райстудбюро павінны быць калектыўнымі арганізатарамі ўсёй студэнцкай працы па раёну* і разам з усёй студэнцкай масай, азнаёміўшыся з задачамі і плянамі ўстаноў раёну (сельсавету, вёскі), павесьці адпаведную працу, *разам з гэтым арганізоўваючы разумны адпачынак.*

У такім сэнсе павінны распрацоўвацца заданьні нашых стударганізацый, як у вядзеньні працы, так у яе вучоце, дабіваючыся канкрэтнага эфэкту, вядома, зьнішчаючы надалей выяўленыя памылкі.

Нельга не зьвярнуць увагі і на такіх „*грамадчыкаў*", якія акрамя ігнараваньня працы, зьяўляюцца „ухарскімі" організатарамі, (як і ў БДУ), розных „шляхецкіх" вячорак, п'яных пахаджэньняў, „індывідуальных апрацовак" папоўскіх дочак, пахабных анэкдотыкаў, а часам і кулацкіх выступленьняў супроць мерапрыёмстваў партыі і савецкай улады. Гэта мела мейсца ў шэрагу акругаў (Полацкай, Магілеўскай, Аршанскай), дзе гэтыя—„гора студэнты" знаходзяць прастор сваёй дзейнасьці, вырваўшыся ад калектыўнага кантролю студэнцкіх мас у ВНУ, пазбавіўшыся ад залікаў, вышаўшы на вясковую шырокую волю.

Мы *будучых спэцыялістаў павінны правяраць ня толькі ў ВНУ, але і там, дзе яны павінны зьяўляцца прадстаўнікамі клясава-сьвядомай культурнай і грамадзкай сілы*; *там, дзе іх выхаваная ідэолёгія стыкаецца з стрыжнем жыцьця, дзе праяўляецца ўся натура студэнта.*

І разам з падтрыманьнем і дапамогай усяму студэнцтву, мы павінны выяўляць гэтых „ура-актывістых" для папраўленьня іх, або ўказаньня ім належнага мейсца ў нашым жыцьці. Для гэтага нашы студ-арганізацыі павінны даведацца аб працы студэнцтва ад мясцовых арганізацый і трымаць з імі ў працягу лета самую цесную сувязь. Да ўсёй гэтай летняй грамадзкай працы трэба зараз-жа распачаць падрыхтоўку, склікаўшы цэлы шэраг сходаў студэнцтва і распрацаваўшы з імі плян заданьняў летняй грамадзкай працы, яе формы і мэтады, забясьпечыўшы ўсіх ад'яжджаючых адпаведнымі матар'яламі.

Такім чынам можна зьнішчыць указаныя недахопы, пры ўмове арганізацыі навакол летняй грамадзкай працы ініцыятывы студэнцтва, своечасовай і належнай падрыхтоўкай да яе. Вядома, што ўсякая карысная хоць невялікая праца на вёсцы ў летні час будзе садзейнічаць ажыцьцяўленьню лёзунгу „Культурнай Рэвалюцыі".

---

С. Мэклер

## Як-жа вырашалася пытаньне?

*(Пра нарыс М. Гольдберга)*

Добры, працавіты хлопец, студэнт Юрка кахае студэнтку Кацю. „Іх блізкасьць, што нарадзілася і расьцьвіла ў паўзмрочных калідорах унівэрсытэту, за супольнай кніжкай у чытальні, пад ціхі гуд прымуса ў пакойчыку інтэрната, іх блізкасьць, вытканая з такіх сьветлых і мучыцельных успамінаў...“ „Ён ня ведаў трывогі, тамленьня, каханьне расчынялася ўва ўсёй абкружаючай запраўднасьці, зьлівалася з ёю ў адно рамантычнае цэлае... Такой блізкасьці можна толькі пазайздросьціць, такое каханьне трэба вітаць.

Але тут „няпрыкметна падкраўся да гораду май“, пацягнула пахам маладога бэзу і... „і яшчэ Іда“. З цьмяна-зялёнымі вачыма, якія-то сьмяяліся да Юркі ў чытальні, то глядзелі так сумна, што „Юрку пранізаў салодкі боль чаканьня“. Як гэта не падобна да блізкасьці, да каханьня з Кацяй. Там—супольная кніжка, пакойчык у інтэрнаце, сьветлыя, мучыцельныя ўспаміны. Тут—вясна, бэз і „яшчэ Іда“. Якое характэрнае гэта і „яшчэ Іда“. Іменна „яшчэ“. Ня тое як з Кацяй, нешта рамантычна-суцэльнае, а „яшчэ Іда“, апошняе зьвяно ў ланцугу „май—бэз—Іда“.

„Якое цяжкае гэтае спатканьне з Кацяй. Хутчэй-бы... пайсьці... каб ня бачыць гэтых сумных пытаючых вачоў, не адчуваць працятага трывожнаю ласкай погляду“. Якая маладушлівасьць! А далей... далей нешта яшчэ горшае—ілжа! Ён ня пойдзе з Кацяй у кіно, бо ён рыхтуецца да залікаў. А катацца з Ідаю на чайцы—час знайшоўся.

Драбніца, але драбніца надта характэрная: аўтар скупы на характарыстыку дзяўчат, але знаёмячы нас з імі, міжвольна (а мо' наўмысьля?) гаворыць пра Іду, што бязмэтна спацыруе па вуліцы, і пра Кацю, якая сьпяшаецца недзе, з кніжкамі пад пахай.

„Боль абхапіў сэрца. Мучыў ня сорам, што салгаў каханай дзяўчыне, а як-раз тое, што яна каханая, каханая як раней...“ „І тое пытаньне... зноў паўстала перад Юркай ва ўсёй сваёй неадхільнасьці“. Якое пытаньне? Якая неадхільнасьць? „Так, гэта ясна—ён кахае Іду. Але-ж ён кахае і Кацю. Кахае, нельга лгаць!.. І чаму гэта нельга кахаць абедзьвюх? Хто стварыў рамкі, хто напісаў ўмовы?“ Няможна Юрачка, няможна, дарагі. Кінь зьвякаць пра рамкі і ўмовы. Гэта—сьлізкая дарожка, па якой ужо дваццаць год назад, як цябе яшчэ і на сьвеце ня было, хадзіў Арцыбашаўскі Санін. Дый чаму гэта ясна, што ты любіш Іду, Юрка? Зусім гэта ня ясна. Ты ня любіш яе, Юрка. Ясна толькі адно—у месяце травень, у садох бэз і... яшчэ Іда з калючымі пацалункамі. Але адыйдзе травень, на зьмену стане летні чэрвень, бэз адцьвіце, а разам з гэтым павінна,—ты разумееш, Юрка,—павінна адыйсьці і Іда. А Каця блізкая, каханая,—застанецца.

Юрка шукае выхаду з сутачок свайго ўласнага пачуцьця, і выхад гэты толькі пацьвярджае ягоную думку аб страце здольнасьці орыентацыі. Хай даруюць мне чытачкі, але я думаю, што ў Юркі „жаночая лёгіка". Праўда-ж бо. „Трэба быць мужным і цьвёрдым". Правільна! „Сьцісьнуць зубы і перамагчы сябе". Правільна. „Вырваць з грудзей абодвы пачуцьці, забыць пра каханых". Брэшаш, Юрка, няправільна. Якія „абодвы пачуцьці", скуль „каханыя"?.

Есьць у цябе адно пачуцьце, адна каханая. Гэта пачуцьцё да Каці, каханая Каця. Рэшта —травень, бэз і „яшчэ Іда", а з аднальковым посьпехам магла-б быць і Соня, і Аня, і Ніна, абы толькі злавіла тваю руку, спытала прыглушаным голасам „ты мяне правядзеш, так?" ды ўкалола пацалункам.

Дэманстрацыя. „Здавалася, што ў каменных зьвілінах гораду забілі жывыя чалавечыя крыніцы і няма нічога ў сьвеце магутнейшага за іх кіпучую сілу... І Юрцы стала ўсё цудоўна ясна, цяжкі груз, што ляжаў у грудзёх, растапіўся... І яму было радасна і дзіўна, што тое пытаньне, якое яго так мучыла, вырашалася так лёгка і проста..." Тут аўтар ставіць шматкроп'е.

Але, дазвольце,—як-жа вырашалася пытаньне? Дэманстрацыя пачалася ў чатыры гадзіны дня, скончылася, напэўна, у сем гадзін увечары. Куды і з кім пайшоў пасьля дэманстрацыі Юрка? Да сябе ў інтэрнат адзін, з Кацяй, да Іды? Пытаньне магло вырашацца проста, але як іменна?

Калі Юрка „вырваў з грудзей абодва пачуцьці, забыў пра каханых", дык тым самым ён паказаў сваю бязраднасьць, панізіў добрае, цёплае і шчырае пачуцьцё каханьня да Каці, раўнуючы яго з мімалётным поцягам да Іды. Паказаў сябе ня мужным, ня цьвёрдым.

Пайшоў з Ідай? Не, гэтае дапушчэньне немагчыма. Немагчыма, бо я не хачу. Няхай і мяне папікаюць „жаночаю лёгікай." Ня веру, каб „блізкасьць, што нарадзілася ў паўзмрочных калідорах унівэрсытэту... блізкасьць вытканую з такіх сьветлых і мучыцельных успамінаў" маглі разьбіць хмельны пах маладога бэзу і нейкая... Іда, няхай, нават, з раскосымі зялёнымі вачыма і калючымі пацалункамі.

Але, можа быць, Юрка пайшоў з Кацяй? Тады я гатовы паціснуць патаварыску яго руку. Шкода, шкода, што аўтар не сказаў, не намякнуў нават, як-жа зрабіў Юрка. Што-ж, давайце самі разьвязваць пытаньне, выказваць свае думкі.

Я за тое, каб Юрка пайшоў з Кацяй! Хто супроць? Хто ўстрымаўся? І дзеля чаго?

Два слова аб „драбніцах". Першае: „пад ціхі гуд прымуса ў пакойчыку інтэрнату". Прымус, нажаль, гудзе ня ціха, а грозна і сьмярдзюча, і не ў пакоях, а на калідоры. Другое—„прыслухоўваліся да сьпеваў жаб". Можна кінуць нашаму студэнцтву дакор, што яно не разьбіраецца ў адценьнях ігры Эгона Пэтры, але нельга гаварыць, што студэнты лічаць за сьпевы гукі жаб. Нават самыя зацятыя прыроднікі з „рэптыльным" ухілам не дадумаюцца да гэтага.

**П. Раздольны**

# Раздвоеньне

*(Фрагмэнты адчуваньняў)*

Вечар... Май... Маладзік...
Лямпа... Кніга... Залік...
Дум віхуры... жаданьняў залейцаных.
Пад вакно падыйдзі,
Новай ласкай заліць
Я хачу тваю ўсьмешку студэнцкую.
Васількоўка мая,
Дзе ты, сонца маё...
Май разомкнуў вясну-чараўніцу...
Падыйдзі-ж, ну дай я
Па цяністых гаёх
Павяду шчасьцю кланяцца ніцы.

* * *

Як сядзець ля вакна,
Калі май за вакном
Шапаціць серабрыстым Nocturn'ам?..
Маладуха-вясна
Вечарыніць даўно
За фіранкай парфумы амурнай.
Вечарыніць вясна...
Сьпіць вішнёвая бель
У вянку шапатлівай пякноты.
Ні заліка... Ні сна...
Я прыдбаў для сябе
Колькі мулкіх хвілін і самотных.
Мо' прыдбаў і ня сам—
Ня вышэйшы кантроль
З яго дзіўнай мазгоў дамінантай.
Ільняная каса,
Мармуровая скронь...
О, спакусная, дальняя здань ты!!.

* * *

І чаму ў мяне так,
Можа толькі ў мяне?..
Дык чаму ў мяне так - ня іначай??.
Можа толькі мастак
У заліковай вясьне
Здолен марыць а дзеўчыне й дачы
Ну й сягоньня, ось тут,
З недавер'ем ў ваччу
Томам кнігі залік вырастае.
І сумненьні растуць—
Я пазнаў і пачуў,
Што залік ўвесь атручаны маем.
Я адчуў і пазнаў,
Што у розум адно,
А у сэрца другое запала...
Дык якога-ж ражна
Я сяджу прад вакном
І жывым разьядаюся палам??.

* * *

Не,
Не,
Не.
Толькі не.
Прэч ты, злосьніцкі зьдзек,
Сэрца, кінь свае дробныя жарты..
Што рабіла раней,
І было тады дзе,
Як ня быў залікова упартым
І я рад, толькі рад,
Што яна ня прышла,
Зачыняю вакно апаўночы я:
Сам сябе я украў,
Бо студэнтка нясла-б
Свае ласкі да згубы дзявочыя.

* * *

І апошні залік
Ператравіў нарэшт,
Толькі лішкі, ды ўвагі назаўтрае.
Усё-ж хвілін тых за лік,
Што муцілі „на грэх"
і душу пацалункамі краталі.
Рад я, рад за канец,
За канец ось такі,
Што ня трэ' сваіх кпін пераносіць.
Пахаваў я на дне
Пачуцьцёвай ракі
Васільковых вачэй яе просінь
О, ты, май-маладзік,
О, ты, заўтрашні дзень.
Чым ты дзень у мяне углядаешся
Вечар гордасьць радзіў,
Прэч, спакуса ў бядзе,
Ты ў дацэнтаў залік не пажалішся.

**Сяргей Фамін**

# Вясна

Травою сыпала ў палёх,
Ў мільёны скрыпак дзесьці грала;
Шумела шэрае гальлё,
А ты сьмяялася й сьпявала.

Ўсю ноч гарэлі агані,
Ўсю ноч цьвілі ружова зоры;
Ты адыйшла пад звон крыніц
У невядомыя прасторы.

У пакоі старым на вакне
Застаўся водар ад жасьмінаў...
І была гэтак смутна мне
Гарэць агнямі успамінаў.

Пашла...
Каб дзесьці у глушы
За кнігамі правесьці лета,
А восеньню блакіт і шыр
Пакінуць для ўнівэрсытэту.

# ГРАМАДЗКАСЬЦЬ І БЫТ

Я. Хадаровіч

## Да сканчэньня навучальнага году

Канфэрэнцыя пролетстуду БДУ, абраўшая цяперашні склад Выканбюро, асабліва завострыла ўвагу апошняга на ажыцьцяўленьне наступных мерапрыемстваў: а) ажыўленьне працы дэлэгацкіх інститутаў пры прафсэкцыях, б) паляпшэньне якасьці акадэмпасьпяховасьці студэнцтва, в) лепшага культурна-асьветнага абслугоўваньня студэнцтва, шляхам паляпшэньня якасьці праводзімых масавых мерапрыемстваў і ўзмацненьня барацьбы з недахопамі быту, г) паляпшэньне матар'яльнага становішча студэнцтва.

У галіне выкананьня вышэйпамяненых дырэктыў Выканбюро мае некаторыя дасягненьні. Праца дэлегацкіх сходаў за гэты час палепшылася: павялічыўся % наведваньня сходаў профдэлегатамі (40—50%—у мінулым, 70—80%—у гэтым годзе). Галоўныя пытаньні профэсыянальнага і акадэмічнага жыцьця студэнцтва ставіліся на абгаварэньне дэлегацкіх сходаў, напрыклад: даклады дэканату аб становішчы факультэту, вынікі 4-га Пленуму ЦБ Пралетстуду ВЦСПС, даклад стыпэндыяльнай камісіі; абгаварэньне праэкту статуту БДУ, даклад аб працы Праўленьня у-ту і інш.

Дрэнным у працы дэлегацкіх інститутаў зьяўляецца тое, што дэлегаты яшчэ ня ўцягнуты ў правядзеньне штодзенай працы прафкому па культурнаму і матар'яльнаму абслугоўваньню студэнтаў, і таму профдэлегаты не адчуваюцца ў дастатковай ступені сярод студэнцтва па курсам і акадэмічным групам.

У галіне рацыяналізацыі навучальных плянаў за гэты тэрмін адбыўся перавод некаторых дысцыплін з абавязковых у факультатыўныя, як напрыклад: гісторыя Грэцыі, гісторыя Рыму, на 4-м курсе Сацыяльна-Гістарычнага аддзяленьня Пэдфаку, і біолёгічная хімія, на прыродазнаўчым аддзяленьні Пэдфаку. У справе рацыяналізацыі навучальнага жыцьця БДУ трэба адзначыць удзел у гэтым прадметных камісіяў, якімі праароблена значная праца. Упарадкаваны расклад лекцый, што дало сканцэнтраваньне занятак у адным мэсцы. Выяўлена думка студэнцтва Пэдфаку наконт дзяржэкзаменаў, альбо дыплёмных прац. Распрацавана палажэньне аб студэнтах вылучэнцах, якое зараз ужо праводзіцца ў жыцьцё. Распрацавана сыстэма вучоту акадэмічнае пасьпяховасьці і палажэньне аб прадстаўнікох студэнцтва ў акадэмічных органах. Навуковымі гурткамі ахоплена было 270 асоб. Стаіць пытаньне аб зьмене сыстэмы прыёму залікаў, бо сучасная сыстэма не дае дастатковай мажлівасьці аб'ектыўна выявіць веды студэнта.

Адмоўнымі бакамі ў акадэмпрацы зьяўляецца тое, што: а) прадметныя камісіі яшчэ не наладзілі сваю працу і не зьяўляюцца „вытворчымі нарадамі“, у якіх бы дасканала абмяркоўваліся пытаньні рацыяналізацыі навучальна-акадэмічнага жыцьця БДУ; б) акадэмічныя пляны усё яшчэ хварэюць шматпрадметнасьцю, што паніжае якасьць акадэм-

пасьпяховасьці, в) зусім дрэнна пастаўлена справа сувязі студэнцтва з вытворчасьцю ў галіне вытворчай практыкі і набыцьця практычных навыкаў па спэцыяльнасьці, г) няма чоткай мэтавай установкі ў падрыхтоўцы спэцыялістых па некаторым аддзяленьням. Эканамічнае аддзяленьне Праўгасу і да гэтага часу добра ня ведае для якіх устаноў яно рыхтуе спэцыялістых.

Узрост культасьветных запатрабаваньняў студэнцтва высунуў задачу пашырэньня культмасавай працы і, у асаблівасьці павышэньня яе якасьці. За 5 м-цаў Палітасьвет-камісіяй Выканбюро і культкамісіямі прафкомаў утворана 15 вечароў, 6 дыспутаў, 4 лекцыі, на якіх прысутнічала 13.750 студэнтаў.

Кожныя 3 тыдні студэнт атрымліваў білет для прысутнічаньня на вечару, альбо дыспуту. Якасьць вечароў таксама падвысілася. Скарочаны да мінімуму, гэтак званыя, урачыстыя часткі, якія працягваюцца зараз ня больш 10—15 хвілін. Мастацкія часткі вечароў запаўняюцца на 40—45% самадзейнасьцю студэнцтва, а астатнія за конт запрашэньня мастацкіх сіл з муэтэхнікуму і пасрэдрабісу. Для абслугоўваньня студэнцтва зноў арганізаваны харавы гурток, які складаецца з 66 асоб. Струнны аркестр складаецца з 17 асоб. Прафкомамі ўтвараліся вечары па аддзяленьням (Пэдфак). Палепшыўся распарадак на вечарох. Выяўлен мастацкі актыў у ліку 50—60 асоб па ўсім факультэтам. Дыспуты ўтварыліся на тэмы, якія хваляюць студэнцтва як напрыклад: „Культура і быт студэнцтва“ „Этыка ўрача і ўрачэбная адказнасьць“.

У параўнаньні з мінулым годам мы маем павялічэньне колькасьці студэнцтва, прымаючага удзел у працы гурткоў. Паліт-профгурткамі абхоплена па ўсіх факультэтах 205 асоб, гурткамі беларусазнаўства—80 асоб, у мастацкіх гурткох прымае удзел 125 асоб, у спорт-гуртку—240 асоб.

Праца профгурткоў была наладжана недастаткова. Гэта тлумачыцца, з аднаго боку, слабым удзелам у профгурткох сяброў саюзаў, а з другога—адсутнасьцю добрых кіраўнікоў. На Пэдфаку некаторыя профгурткі скончылі свае жыцьцё, нават не нарадзіўшыся, бо ніводзін з запісаўшыхся на заняткі не зьявіўся. У профгурткох Праўгасу і Мэдфаку вельмі мала займаецца сяброў саюзу (2—3 асобы).

Надзвычайна вялізарную ролю ў справе культабслугоўваньня студэнтаў адыграла ўстаноўка кіно-апарату. Платныя кіно-сэансы праводзіліся штотыдзень (па 7 капеек), а таксама амаль што кожны тыдзень праводзіліся бясплятныя сэансы. Усяго прапушчана праз кіно 11.250 чал.

У галіне пазавузаўскай працы гэты год можна лічыць першым годам сыстэматычнай культасьветнай дапамогі вайсковым часьцям і рабочым прадпрыемствам, шляхам разгортваньня гуртковай працы, чыткі лекцый, экскурсій ва унівэрсытэцкія лябараторыі. Усяго у гэтым годзе працавала 89 гурткоў, з якіх: па ліквідацыі няпісьменнасьці—35, прыродазнаўчых—15, агульна адукацыйных і інш.—39. Прачытана 10 лекцый, утворана 5 экскурсій.

Супольна з ячэйкай КСМ арганізованы курсы па падрыхтоўцы рабочай моладзі ў ВУЗ'ы, Рабфакі і тэхнікумы, на якіх займаецца 420 асоб з якіх 95% рабочых. Занята на гэтай працы 54 студэнты ў якасьці выкладчыкаў.

Вялікае значэньне мае распачатак працы па сатаварыству з рабочымі прадпрыемствамі. Хаця ў гэтым годзе мы і ня маем значных практычных дасягненьняў, бо гэтая праца распачата толькі з другога паўгодзьдзя, але стударганізацыі добра ўявілі сабе формы працы, якую трэба шырока разгарнуць у будучым навучальным годзе. Зараз накіро-

вана на пазавузаўскую працу, апрач сатаварыства з Чырвонай арміяй, 110 асоб.

Выканбюро ў гэтым годзе была праведзена абсьледваньне становішча друку ў БДУ. Дзякуючы дадзеным дырэктывам, мы маем у другім паўгодзьдзі ажыўленьне працы насьценных газэт. Навакол насьценгазэт і часопісу аб'яднана больш 400 студкораў.

Культ-асьветная праца у інтэрнатах асяродкам сваёй увагі ставіла барацьбу з недахопамі студэнцкага быту. Для гэтага створаны ў 42-х пакоях ядра быту.



Выканпрофбюро Пралетстуду Б. Д. У.

Яшчэ і да гэтага часу ня ўсім студэнтам, жыхарам інтэрнату, добра зразумелы задачы і важнасьць гэтага мерапрыемства. Шмат студэнтаў ня хочуць зразумець, што ў справе барацьбы за новы быт, якая пастаўлена зараз перад культкамісіямі інтэрнатаў, як першачарговая задача, ядра быту служаць асноўнай формай, праз якую можна пасьпяхова ажыцьцяўляць гэту задачу. З 512 асоб жывучых у інтэрнатах мы маем толькі 160 асоб абхопленых ядрамі быту. Санітарнае становішча інтэрнатаў, дзякуючы правядзеньню конкурсу на лепшы пакой, значна палепшылася. У барацьбе з канкрэтнымі „насіцелямі зла“ вялікую ролю грае насьценгазэта „Быт інтэрнату“.

Дзякуючы мерапрыемствам Эканомкамісіі Выканбюро, абеды ў студсталоўцы палепшаны з 500 калорый (у лютым м-цы) да 804 кал.—зараз. За справаздачны тэрмін атрыманы 3 чаргі талёнаў на сукно, а таксама захован пай МЦРК у старым разьмеры 2 р. 50 к., у той час, калі наогул пай павялічыўся да 15-ці руб. Дзякуючы хадайніцтву Эканомкамісіі гарадзкі савет вынес пастанову аб замацаваньні за студэнцтвам каля 400 пакояў у Жактах і прыватных, 30% нормы, у якіх жыве студэнцтва. Выканбюро ўзбудзіла хадайніцтва перад належнымі ворганамі аб павялічэньні стыпэндыі студэнцтву з будучага навучальнага году.

Дрэнна тое, што студэнцтва не цікавіцца працай сталоўкі: савет сталоўкі працуе слаба. Уцягненьне студэнцтва ў каапэрацыю недастаткова; каапэрацыйна-лавачныя камісіі на факультэтах зусім не абраны.

---

В. Вяржбіцкі

## Ядра быту ў нашых інтэрнатах

9-га красавіка адбылася нарада бытавых працаўнікоў інтэрнатаў БДУ. На гэтай нарадзе, разам з абменам вопытам, падведзены і некаторыя вынікі працы ядраў быту. У інтэрнаце па вул. Энгельса ядра быту ўтвораны ў кожным пакою. У інтэрнатах Рабфаку арганізавана 28 ядраў быту і—4 у інтэрнаце па Ленінскай вул. Такім чынам, мы маем па ўсіх інтэрнатах БДУ 40 ядраў быту, якія абхопліваюць 160 таварышоў.

Вялікаю перашкодаю арганізацыі былі некаторыя т. т., якія, лічучы сябе „минимум-профессорами“, гаварылі, што ўсё гэта яны ведаюць, што гэта дробязь і што гэтай дробязьзю ня ім займацца і г. д. Тым часам у іхнім-жа пакоі (Ленінская вул.) вельмі брудна, т. т. „б'юць бібікі“, абвяшчаюць „анархію“ ў пакоі, гаворачы што ім старшком ня патрэбен і г. д., і г. д. Але-ж ня гледзячы на гэта, ядра быту зрабілі значную працу, вынік якой даў:

1) Тое, што 140 пакояў (з агульнага ліку 150) выпісваюць часопісы і газэты (пераважна „Правда“ і „Зьвязда“).

2) Санітарна-гігіенічнае становішча многіх пакояў значна палепшылася. Для прыкладу можна узяць 56 пакой (Ленінская вул.), які да арганізацыі ядраў быту быў самы брудны, цяпер-жа, ня гледзячы на тое што там жыве 28 чал., ён мае даволі добры выгляд, праветрываецца, сыстэматычна мыецца падлога, і інш. Гэта-ж самае можна сказаць пра шмат каторыя з пакояў інтэрнатаў.

3) Жыхары інтэрнату паступова ўцягваюцца ў фізкультуру; так у зарадавыя заняткі (па вул. Леніна) уцягнута каля 60 асоб, шмат т. т. займаецца фізкультурай індывідуальна. Вядуцца перамовы аб перанясеньні заняткаў ў сад Мэдсанпрацы.

4) У 20 пакоях арганізавана калектыўнае харчаваньне (ня лічучы малых калектываў па 2—3 чал.).

5) Вядзецца барацьба з нетаварыскімі адносінамі, так, напр., у інтэрнаце па вул. Энгельса, ўсім калектывам ядраў быту гэтага інтэрнату, разглядаўся характэрны прыклад нетаварыскіх адносін да жанчын (з хлапецкага пакою ў жаночы пісаліся розныя вульгарныя запіскі „з малюнкамі“ самага пахабнага зьместу).

Разам з гэтымі дасягненьнямі ёсьць яшчэ шмат недахопаў у нашым штодзённым жыцьці, аб якіх гаварылі на нарадзе: заўважваецца індывідуалізм і дробненькія „рахуначкі“ ў быце. (Гэта асабліва выявілася пры арганізацыі калектыўнага харчаваньня ў інтэрнаце па вул. Энгэльса, калі адзін студэнт гаварыў: „Я-б ня проч быць у калектыве, але, як гэта пры супольным харчаваньні мы зможам падлічыць, з каго колькі ўзыскаць грошаў у м-ц, бо мне патрэбна 1 ложка цукру, а Х. заўжды сыпле сабе дзьве“). Ёсьць і адваротныя „імкненьні да калектывізму“, напрыклад у пакоі па Ленінскай вул. утвараюцца сходы пакою, для таго, каб, як яны кажуць, „паакцябрыць“ такога-та таварыша. Што датычыцца „мата“, дык ён яшчэ і цяпер знаходзіць сабе прытулак у інтэрнатах і,

асабліва, ў рабфакаўскім; таксама ня ўсюды яшчэ добрае санітарна-гігенічнае становішча пакояў. З гэтага відаць, што адпачываць на лаўрах яшчэ рана, што трэба працаваць яшчэ з большаю ўпартасьцю чым раней.

Бытавым працаўнікам інтэрнату неабходна арганізаваць большую сетку ядраў быту (гэта тычыцца рабфакаўскіх інтэрнатаў і інтэрнату па вул. Леніна), а ў пакоях, дзе арганізацыя не патрэбна, трэба зьвязацца з асобнымі т. т. (старшкомам, ці камсамольцамі), праз якіх і праводзіць справу паляпшэньня нашага быту. Праца санкамісіі павінна быць цесна ўвязана з працай бытавых працаўнікоў. Гэтая-ж праца павінна быць галоўнай і ў культкамісіі інтэрнату. Але дзеля гэтага трэба ў першую чаргу скласьці адпаведныя абставіны, трэба пераламіць погляд на гэтую справу, як на дробязь, паказаць, што гэтая „дробязь“ складае вялікую справу нашага штодзеннага жыцьця. Нашы арганізацыі павінны на асоб, зрываючых гэтую працу, ўплываць праз арганізацыйныя мерапрыёмствы, расцэньваючы факты такога зрыву, як факты зрыву нашай агульнай працы. Толькі пры такіх умовах, пры агульным падтрыманьні, як з боку арганізацый, так і з боку ўсяго студэнцтва, мы зможам будаваць наш новы культурна-пралетарскі быт.

**М. М. Пятроў**

---

# Лягерныя зборы студэнцтва

Лягерны збор пры вайсковых часьцях для студэнтаў другога курсу зьяўляецца важнейшай, неад'емнай часткай усяе сыстэмы вышэйшай дапрызыўнай вайсковай падрыхтоўкі. Асноўнай задачай лягернага збору зьяўляецца:

а) набыцьцё практычных навыкаў і ведаў радавога чырвонаармейца-байца.

б) укараненьне асноў вайсковага выхаваньня.

г) паглыбленьне вайсковых ведаў, атрыманых студэнтамі ў час тэорэтычных заняткаў па катэдры ВДВП шляхам правядзеньня практычных заняткаў, якія не маглі быць праведзены ў зімовы пэрыяд (тапаграфічная з'ёмка, стральба, палявыя заняткі і інш.). Акрамя таго—на практыцы азнаёміцца з жыцьцём і бытам рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі для паглыбленьня і далейшага падтрыманьня сувязі з ёй.

Лягерныя зборы зьяўляюцца сур'ёзнай вучобай патрабуючай значнага фізычнага напружаньня, вынослівасьці і палітыка-маральнай устойчывасьці. Погляд на лягеры як на „дачу“ трэба адкінуць. Вопыт мінулага году паказаў, што фізычнае разьвіцьцё студэнцтва ў масе далёка недастатковае. Дзеля гэтага з першых-жа дзён лягернага збору студэнт павінен разьвіваць сябе, праводзячы ўсю фізпадрыхтоўку, якая патрабуецца па вучэбнаму пляну лягернага збору. Толькі тады паходны рух і палявыя заняткі з снаражэньнем чырвонаармейца і вінтоўкай студэнту ня будуць цяжкімі. Тэрмін лягернага збору абмяжованы цэнтрам з 15-га чэрвеня па 15-ае жніўня. Гэты тэрмін падзяляецца на 2 пэрыяды. Першы 5-6 тydняў, калі з студэнтаў арганізуюцца студэнцкія роты з задачай прайсьці практычную падрыхтоўку індывідуальнага байца перад пастаноўкай яго ў агульны строй. Другі—2-3 тыдні, калі студэнты праходзяць групавую падрыхтоўку, уваходзячы ў строй вайсковых часьцей у якасьці радавых чырвонаармейцаў, дзейнічаючых у складзе ўзвода і роты. Лягерны збор абавязаны адбыць студэнты 2-га курсу, годныя да страявой службы, нараджэньня 1901 году і маладзей, ня служыўшыя ў арміі.

У час прабываньня ў лягеры студэнты будуць забясьпечаны, за кошт вайсковага ведамства, прадметамі „вещевого довольствия", за выключэньнем бялізны. Пагэтаму кожнаму студэнту належыць узяць з сабой у лягер 2 зьмены нацельнай бялізны, 2 рушнікі, 2 навалачкі, 2 прасьціны і коўдру.

Харчаваньнем і грашовым „довольствием" студэнты задавальняюцца на агульных падставах чырвонаармейцаў. (Студэнты ў час нахаджэньня ў лягзборы лічацца ў радох РСЧА на палажэньні чырвонаармейца са ўсімі выцякаючымі адгэтуль правамі і абавязкамі). Вопыт мінулага году паказаў, што, ня гледзячы на вялікае фізычнае напружаньне, здароўе студэнцтва за час 2-хмесячнага прабываньня ў лягеры значна палепшылася; было адзначана павялічэньне грудной клеткі, нарастаньне цягліц і г. д.

Адносіны студэнцтва да лягерных збораў былі добрыя. Студэнты цікавіліся заняткамі, у якіх праяўлялі стараннасьць і выконваннасьць. Дысцыпліна была на належнай вышыне. Мелі вайсковы выгляд і ўва ўсіх адносінах рабілі прыемнае ўражаньне. Што тычыцца грамадзкай працы, то тут студэнцтва хутка прынаравілася да ўмоў лягернага жыцьця і прымала ўдзел у розных палітасьветных гуртках, насьценных газэтах, клюбных пастаноўках, Ленінскіх кутках і інш.

Мы цьвёрда ўпэўнены, што студэнцтва БДУ, у гэтым годзе, ў першы раз адбываючы лягерны збор, пакажа сябе ўва ўсіх адносінах з найлепшага боку, не шкадуючы максымуму энэргіі і сілы волі, каб набыць веды, неабходныя будучаму камандзіру запасу РСЧА.

Для студэнтаў 3-га курсу ў гэтым годзе арганізуюцца 3-х-тыднёвыя выхады ў поле (108 гадзін). Задачай выхадаў у поле зьяўляецца— прайсьці тапаграфічную з'ёмку, азнаёміцца з бытам вайсковых часьцей, з тэхнічнымі сродкамі барацьбы і даць студэнтам страявую падрыхтоўку

Адбываюць выхады ў поле тыя студэнты нараджэньня 1901 году і маладзей, хто прызнаны годным да страявой службы. Час выхаду ў поле—з 15-га чэрвеня па 7-ае ліпеня.

За студэнтамі—служачымі, як адбываючымі лягерны збор, так і 3-х тыднёвыя выхады ў поле, на падставе інструкцыі Наркампрацы СССР. ад 20/VI м. г. за № 138, захоўваецца месца пасады і сярэдні заробак.

---

**С. М.**

# Нататкі аб культуры і быце

(*Па матар'ялах, якія паступілі ў рэдакцыю*)

Навучальны год падыходзіць да канца. Калі паглядзець на пройдзены шлях, калі ўспомніць цэлы шэраг пытаньняў, якія прыкоўвалі да сябе ўвагу студэнцкае грамадзкасьці, то асабліва выпукляецца пытаньне аб культурнасьці, аб адносінах адзін да аднаго, да рэчаў і г. д.

Адбыўся дыспут, вядуць барацьбу за новы быт часопіс і насьценгазэты, ня мала ўвагі зьвяртаюць на ўсе гэтыя пытаньні студэнцкія арганізацыі і факультэцкага і агульна-унівэрсытэцкага памеру.

Але сказаць, што вялася рэгулярная, штодзённая канкрэтная барацьба з скажэньнямі быту, з някультурнасьцю, з антыграмадзкасьцю з амаральнасьцю—мы ня можам.

* * *

Пра нядбайныя адносіны да чужых кніжак, нежаданьне сваечасова, аддаваць іх і г. д. шмат было пісана яшчэ ў мінулым годзе ў „Красном Студенчестве“. І, ня гледзячы на гэта, ніякага пераломy не прыкмячаецца. А чаму? Таму, што гутарка вядзецца ўвесь час на тэму „наогул“ і ня прыводзяцца канкрэтныя прыклады.

Калі-б, напрыклад, студэнта 5-га курса мэдфаку т. Ш. прыцягнуць да грамадзкага суду за адмову зьвярнуць сваечасова студэнтцы К. яе ўласны падручнік, ня гледзячы на просьбы і дамаганьні, і запляміць ягоны ўчынак, то, магчыма, ні сам т. Ш., ні іншыя не рабілі-б такіх рэчаў надалей.

* * *

Калі-б студэнту мэдфаку за някультурныя паводзіны (пралязаньне праз вакно на вечар пэдфаку) не даручалі працу ў камісіі па наладжаньню мэдфакаўскага вечару, а, наадварот, выявілі такія паводзіны публічна, то мы ня мелі-б на вечарох ні пабітых вакон, ні пабітых... нэрваў у распарадчыкаў вечароў.

Пачуцьцё бяскарнасьці дае магчымасьць распаясацца. Бясспрэчна, калі-б гэткія і падобныя факты перадаць на суд масы, дык апошняя дала-б належную ацэнку і аднеслася-б адмоўна да гэтага ўчынку. Але такою „дробязьзю“ абцяжарваць парадак дню, ну, скажам, дэлегацкага інстытуту,—ня лічаць за патрэбнае. Іншая справа—даклад „аб сыстэме народнае асьветы“. Гэта „гучыць пышна“ і паказвае размах працы.

* * *

У пакоі інтэрнату жывуць людзі, я ня ўжываю нават слова „студэнты“,—бо ад студэнта больш вымагаецца. У кожнага свой куфэрак на замочку. І няхай побач ляжыць галодны чалавек, у іншага рука не задрыжыць, калі адрэзаўшы для сябе на вячэру кавалак хлеба з кілбасою, ён замыкае рэшту ізноў у куфэрак, ведаючы пра тое, што таварыш галодны.

А побач іншы пакой, дзе падобныя рэчы ня могуць мець месца, бо ўсе жыхары харчуюцца калектыўна. Як проста можна ўнікнуць калецтваў быту і як паволі мы ўрастаем у новы быт.

* * *

Раньнем жыхары пакою ляжаць, чакаючы, каб хто-небудзь іншы ўзьняўся, схадзіў па воду ці прыбраў памяшканьне. І так ляжаць некалькі чалавек пералежваючы адзін другога, пакуль каму не абрыдне.

Іншы на працягу паўгодзьдзя ня ходзіць на лекцыі, валяецца на ложку паўдня не апранаючыся. Сойдзе з ложка, так-сяк памыецца, утрэцца прыполам кашулі, вып'е гарбаты і кладзецца зноў. Нават для асабістае патрэбы лянуецца ўставаць—праўда, злыя языкі ўпэўніваюць, што ад вядра для сьмецьця інады сьмярдзіць.

А ў суседнім пакоі на сьцяне вялікі ўва весь рост партрэт Леніна—першы прыз конкурсу на лепшы пакой інтэрнату. У пакоі, дзе жывуць трынаццаць чалавек, чыстата і парадак, якім можна толькі пазайздросьціць.

Значыцца можна пабудаваць і ў нашых умовах новы быт, можна ня гледзячы на далёка ня бліскучае эканамічнае становішча палепшыць шэраг бакоў нашага жыцьця.

Патрэбна толькі жаданьне. Патрэбны калектывізм.

* * *

У студэнцкай галярні стрыгуцца і голяцца за 10 кап. Аднак ёсьць і такія аматары, што ўхітраюцца зрабіць усё гэта і па 5 кап. Стрыгуцца раз у 3 месяцы і абменьваюць рэшту талёнаў для стрыжкі кожны на два талёны для галеньня, бо іншы таварыш стрыжэцца часьцей. Няма таго, каб паталарыску абмяняць талёны, вартасьць якіх аднолькава. Трэба абавязкова зарабіць і зарабіць на тым-жа стыпэндыяце, ня толькі не прызнаючы за сабою віны, але і голасна апраўдваючы свой паступак.

Падобныя формы „змаганьня за існаваньне" не павінны мець месца ў студэнцкім жыцьці, бо яшчэ некалькі крокаў—і можна дакаціцца да ліхвярства.

* * *

У гумары нашых вусных, сьветлавых і іншых газэт, побач з грамадзка-карысным зубаскальствам, побач з някрыўдным жартам, трапляюцца і такія рэчы, аб якіх можна сказаць, што ў інтымнае жыцьцё таго, ці іншага таварыша „залазяць у брудных ботах".

Побач з такімі харошымі злобаднеўнымі прыпеўкамі на акадэмічныя тэмы, як:

„Ты скажи мне деканат,
Я в волненьи пламенном—
Нас дипломкой наградят,
Или госэкзаменом"

трапляліся, параўнальна ня так даўно, шкла сьветлавое газэты з малюнкамі, якія маглі-б з гонарам заняць месца ў порнографічным журнальчыку „недоброго старого времени". Гэта, вядома, не масавая зьява, мы не падымаем трывогу, але трэба зважаць, што існуе і гэткі ўхіл...

* * *

У шэрагу мужчынскіх пакояў інтэрнату буйна цьвіце кляцьба і лаянка. Лаюцца ня ў мінуты гневу, дасады, а бесперарыўна, бяспрычынна, без адпачынку. Што да гэтага—ўсе аднолькавы: камсамольцы і беспартыйныя, актывісты і „акадэмісты". Лаюцца віртуозна. Часам, у моманты прасьвятленьня, зьвернецца які-небудзь сумленны малады студэнт да патэнтаванага майстра мацершыньніка—„ад цябе, маўляў, апроч гэтага самага... нічога іншага і не пачуеш..." Той няпрытворна абураны: —„Як толькі гэта? А яшчэ і так умею (новая лаянка) і так (ізноў лаянка) і гэтак..." І пачынае „казаньне" на паўгадзіны.

* * *

Студэнт Ікс. Ягоны ложак у інтэрнаце бадай што найбольш небясьпечны ў сэнсе наяўнасьці „фаўны". Гэтага студэнта можна часта спаткаць у кіно; ён даволі элегантны; гарнітурчык рупліва вычышчаны, каўнер прыпадняты з манераю апаша. Кепка набок. Франт. Але пад камізэлькай у яго ёсьць сарочка з начэпленым на яе некаторым падабенствам да гальштука. Дык вось, гэтая сарочка ні разу ня была ў праньні. Перад кожным рэйсам у кіно яна прасуецца. Што да бялізны гэтага студэнта, дык аб гэтым у друкаваным органе няпрыстойна гаварыць...

* * *

Пры падрыхтоўцы да заліку чытаецца і вывучаецца падручнік, але літаратура больш спэцыяльная, якая беспасярэднага дачыненьня да заліку ня мае, чытаецца рэдка.

Што да агульнага разьвіцьця, кругазору, эрудыцыі, дык тут мы нярэдка кульгаем на абедзьве нагі.

Група студэнтак апошняга курсу, якія праз некалькі месяцаў канчаюць літаратурнае аддзяленьне пэдфаку, рыхтуюцца да заліку па гісторыі УсеКП. Адна чытае, рэшта слухае. „У такім вось годзе, на такім і на такім зьезьдзе меншавікі запрапанавалі каўчукавую рэзалюцыю па такім-та пытаньні..."

Агульнае недаўменьне. Ніхто ня ведае што гэта за яно—„каўчукавы"...

* * *

Студэнт мэдфаку піша і вывешвае абвестку такога парадку: пачынаюцца практычныя занятк і,прыхадзеце туды і туды, вазьмеце з сабою „тетескопы" (!). І падпісваецца не без гонару: „преставитель по кафере".

* * *

Палітычная пісьменнасьць шмат каторых студэнтаў спэцыяльных аддзяленьняў ня выходзіць за межы падручніка Каваленкі. Яшчэ горш стаіць справа з профпісьменнасьцю.

А тымчасам у нас ёсьць магчымасьць запоўніць гэты прабел, абы было жаданьне. Мы маем гурткі, ў габінэтах і чытальнях ёсьць вялікі выбар палітычнае літаратуры.

---

**П. Пшонка**

# Хто „за"?

Канчаюцца залікі, а з імі і наша „вясна заліковая". Большасьць з нас паедзе на вёску адпачыць ад разумовай працы і дапамагчы бацькам па сельскай гаспадарцы.

Шмат каму хацелася-б паехаць у Крым, на курорт, у „дом адпачынку", або папасьці на экскурсіі, што ладзяцца студэнцкімі організацыямі. Але гэта, пры нашых умовах, для многіх недасяжнае імкненьне.

Ёсьць яшчэ адзін выхад з гэтага становішча, на які, часам, не зьвяртае ніхто ўвагі. Гэта скарыстаньне прыродных вясковых умоў летняга аздараўленьня організму.

Мы прапануем організовываць разам з турыстымі—пешаходамі, групы адпачынку. Гэтыя групы адпачынку абіраюць сабе дзе небудзь добрае мейсца ля лесу і рэчкі і праводзяць там час устанавіўшы пэўны здаровы рэглямант.

Там можна скарыстаць, сонца, здаровае паветра, ваду, і адпачынак.

Гэта будзе добрая дача. Але ня толькі дача, а і курорт.

Калектывам, вядома, можна будзе ў вёсцы за недарагую цану дастаць усе продукты патрэбныя для добрага харчаваньня і пражыць на сваю стыпэндыю і на невялікую дапамогу прафкому і Выканбюро.

Разумна організаваны рэжым на гэтай „дачы" дасьць добрыя вынікі ў сэнсе аздараўленьня, што вядома кожнаму пісьменнаму чалавеку. Выканбюро павінна пайсьці насустрач і дапамагчы ў організацыі гэтых груп адпачынку.

А зараз давайце падрыхтуемся, зьбярэм свае калектывы, зьявім жаданьне паехаць у „кузьню здароўя".

Хто „за"? зьбірайся! Пабудуем групы, выявім арганізатараў і пасьля заліковай сэсіі—у дарогу.

---

І. Эфрон

# Студэнцкі друк на задворках

У дорэвалюцыйныя часы, ў пэрыяды самай чорнай рэакцыі, ня кажучы ўжо пра ясьнейшыя мімалётныя ў ёй перарывы, расейскае студэнцтва выдавала свае друкаваныя органы, ярка-грамадзкага і рэвалюцыйнага зьместу. (Ужо ў 60-х гадох мінулага стагодзьдзя пецярбурскае студэнцтва выдавала „Колокольчик", на падабенства Гэрцэнаўскага „Колокола"). Мартыралёгія студэнцкага дорэвалюцыйнага друку надта вялікая. „Гісторык расейскага студэнцтва і расейскае грамадзкасьці спыніцца з увагаю на студэнцкім друку і ўспамяне тых, хто, ахвяруючы сваю вольнасьць, ужо ў маладыя гады прабаваў падняць голас, прыбраць свае слова ў друкаваную форму і адкрыта праявіць сваю думку."[1])

Здавалася-б, што тым болей цяпер, пры ўмовах савецкае запраўднасьці, калі, як кажуць, карты ў рукі, калі ўсе мы маем сьвядомасьць значэньня друку да найменшае дробязі, калі кожны піянэр патрапіць вытлумачыць значэньня фразы У. І. Леніна пра газэту, як калектыўнага арганізатара,—студэнцкі друк павінен быў заняць належнае яму месца.

Аднак, у наш час савецкі студэнцкі друк далёка не дасягае да ідэалу і цягнецца ў хвасьце.

Як выглядае гэты друк, напрыклад, у Маскве? Рад ВНУ мае свае двухтыднёвыя газэты, якія выпускаюцца ў ліку 2-3 тысяч экзэмпляраў кожная. Зьмест гэтых газэт наганяе сумныя думкі: чытач, нават пры сыстэматычным чытаньні, ня ўгледзіць там запраўднага твару студэнцтва, ня знойдзе яго дамаганьняў, яго дзейнасьці.

Усесаюзная часопісь „Красное Студенчество" друкуецца ў ліку 12000 экз. Ці можна назваць гэты лік здавальняючым? Вядома не. Студэнтаў—сотні тысяч. Рэдакцыя гэтай часопісі паставіла сабе задачу—павялічыць лік падпісчыкаў у гэтым годзе да 30000. Мы дазволім сабе сумлявацца ў магчымасьці такога павялічэньня. Распаўсюджваньне часопісі ў нашым ун-це не гаворыць за гэта. Некаторыя работнікі нашых студэнцкіх арганізацый ня толькі ня выпісваюць, але і ня чытаюць гэтае часопісі. Прынамсі так можна падумаць, бачучы поўнае няведаньне шэрагу дыскусыйных пытаньняў, узнятых на старонках часопісі, якое назіраецца паміж некаторых кіруючых працаўнікоў.

А самы ўдзел у распаўсюджаньні часопісі? Ласьне ён ня мае характару фармальнага выкананьня няпрыемнага абавязку? Ня шмат матар'ялу, параўнальна з студ. масай, зьмяшчае ў сабе „Красное Студенчество", але і гэты матар'ял не выкарыстоўваецца намі, не знаходзіць водгульля.

Возьмем студэнцкі друк на Беларусі. Насьценгазэты... Папершае, ў нашых умовах гэта ўжо ёсьць перажытак, а падругое... Яны нікчэмны, апроч пэдфакаўскае, дый яна, дзякуючы імкненьням укласьці артыкул у 20 радкоў, ня прыводзіць да мэты. Паказальнаю зьяўляецца толькі працаздольнасьць рэдкалегіі.

Ці дапамагаюць студэнцкія арганізацы і іх працаўнікі (а іх у нас нямала) рэдкалегіям у працы? Ці пішуць яны не „нашчот вопшчэ", а на канкрэтныя тэмы дня? Мы чыталі ўжо пра сэкратара к-ву ЛКСМ

---

[1]) Г. С. Святиков. Путь Студенчества. Сб. статей 1916 г. стр. 243.

пэдфаку, але пры жаданьні можна дадаць рад іншых, ня менш адказных таварышоў і ўсю Акадэмкамісію in corpore—з усімі яе праэктамі, плянамі, палажэньнямі, пратаколамі, нязьлічанымі пасяджэньнямі,—аб працы якое яе працоўнікі, ня гледзячы на нашыя ўсіленыя просьбы, ня хочуць нас паінфармаваць.

Успомнім збанкрутаваўшую часопісь „Чырвоны Сьцяг", адно імя каторай наводзіць дрыжыкі на працоўнікоў бухгальтэрыі Белдзяржвыдавецтва. Часопісь была забясьпечана сродкамі, садзейнічаньнем партыйных і прафэсыйных арганізацый,—і ўсё-ж такі „прагарэла". Некаторыя бачаць прычыну гэтага ў залішне раньняй беларусізацыі часопісі, мы-ж галоўную віну ўскладаем на поўную нядбайнасьць да разьвіцьця яе, да яе зьместу і распаўсюджаньня, якая была выяўлена з боку студэнцкіх арганізацый нашых навучальных установ.

Папрацаваўшы тры гады ў студэнцкім друку, мы ў значнай ступені згубілі свой оптымізм. Нам думаецца, што бяздушны фармалізм, альбо, нават, і нядбайнасьць у вадносінах да студэнцкага друку займаюць у ВНУ залішне шмат месца. Адчуваецца, што колькасьць выпушчаных №№ лічыцца больш важнай за зьмест іх. Будзем надта ўзьдзячны таму, хто патрапіць давесьці, што гэта ня так.

У гэтым годзе, ня гледзячы на цяжкія ўмовы працы, былі выпушчаны тры нумары часопісі „Шлях Студэнцтва". Тыраж паасобнікаў хутка разыйшоўся. Рэдкалегія апынілася перад дылемай—павялічыць тыраж і палепшыць якасьць часопісі. Першае дасягненьне ёсьць. Да другога мы дойдзем тады, калі зьнікнуць недахопы ўспомненыя вышэй і будуць прыняты наступныя палажэньні, якія мы, разам з вышэйпаданым, высоўваем для абмеркаваньня.

1. Усе пытаньні студэнцкае працы павінны сваячасна высьвятляцца і абмяркоўвацца на старонках часопісі.

2. Студэнты—паэты і літаратары (іх нямала) павінны супрацоўнічаць у часопісі. Мы маем права чакаць ад нашых паэтаў творчасьці на студэнцкія тэмы. Да гэтага часу ніхто ня прыбраўся над гэтымі тэмамі папрацаваць. Дарэчы, зьмешчаны ў апошнім нумары нарыс Гольдбэрга мае студэнцкага ў сабе толькі тое, што „асоба", якая кахала дзьвёх дзяўчын адразу і ніводнае паасобку—была студэнт. Пра быт, апроч катаньня на чайцы ў самую гарачую пару вучобы, няма нічога. Грамадзкая праца гэтага студэнта складаецца з хадні на дэманстрацыю. Ня тыпаж, а няўдалая карыкатура!

3. Не забыліся мы і пра чытача-студэнта і дамагаемся адказу: „чаму, чытаючы часопісь, ты ня прыбраў часу напісаць нам—што табе падабаецца і не падабаецца ў ёй? Чаму ты, наглядаючы навокал недахопы быту і вучобы, нічога не прапануеш для іх выпраўленьня, чаму ты ня лічыш за патрэбнае падзяліцца на старонках часопісі радам сваіх меркаваньняў аб працы студ. арганізацый?".

4. Уласна кажучы, перад намі стаіць толькі адна задача: зрабіць... студэнтаў, і, ў прыватнасьці, актыў на гэтульки „цывілізаванымі", каб яны зразумелі ўсю карысьць і выгады ад пагалоўнага ўдзелу ў працы студэнцкага друку. „Толькі" гэта. Але для таго каб зрабіць гэтае „толькі" трэба зрабіць цэлы пераварот[1]).

На змаганьне за гэты, як найхутчэйшы, пераварот мы заклікаем нашу студэнцкую грамадзкасьць!

---

[1]) Перафразоўка цытаты з У. І. Леніна аб каапэрацыі.

**М. Кругэр**

# Наш друк

Маленькая, на кепскай паперы, у цёмным, пыльным кутку, куды, амаль што, не пранікае жаўтаватае сьвятло засіджанай мухамі лямпачкі, вісіць яна, старэйшая з нашых насьценгазэт, усім вядомая цяпер „Кузьня Асьветы", тады „Праменьні Кастрычніку".

У маленечкай чытальні, каля 7-ай аўдыторыі („актавая заля" таго часу) паседжаньне рэдкалегіі. „Рэдкалегія"—гэта 3-4 чалавека. Чытка матар'ялу: 5-6 артыкулаў і ўвесь матар'ял зачытаны.

Яшчэ, амаль што, ніводная арганізацыя ня ведае добра: што за роля гэтае насьценгазэты, гэтай размалёванай дошкі, абклеянай паперай. якая вісіць на сьцяне калідору. Новым, датуль нячутным, гучыць слова „студкор".

Але годы ідуць... І вось, вялізная, на палову сьцяны Пэдфакаўскага калідору, красавіца „Кузьня Асьветы". Яна мае 300 студкораў і 60-70 артыкулаў у кожным нумары. Замест аднаго разу ў месяц, або, нават, у два месяцы, яна выходзіць 2 разы ў месяц.

На версе малодшая, але дагнаўшая яе ўжо па вялічыне, сястра—праўгасаўская „Трыбуна".

На Мэдфаку—равесьнік „Кузьні"—яркі „Мэдфакавец".

У інтэрнаце „октябренок"—„Быт Інтэрнату".

А вось... навакол наклеенай на паперу прыгожай, ружовай вокладкі:

**„Вышаў з друку чарговы нумар „Шлях Студэнцтва"**

і радам столік, груды часопісаў. Часопіс друкуецца ў друкарні ў 650 экзэмплярах. А ня так даўно 100-200 экз., друкавалі саматужным спосабам на шклографе.

Пагледзім аб чым-жа пішуць усе гэтыя нашыя насьценгазэты і часопісы. Быць можа аб кітайскай рэвалюцыі, аб Макданальдзе і „пісьме Зіновьева", аб разброеньні па спосабу „вядомага міратворцы" лорда Кешэндэна. Так, выбачайце, я-ж усё гэта лепш магу прачытаць у „Правде", „Звязьдзе" у „Рабочым".

Не, зусім не: яны можа больш ваяўніча настроены, чым лорд Кешэндэн, яны аб'явілі сьмярцельную бойку, да поўнай перамогі, ўсім нашым вялікім і маленькім недахопам, яны вядуць штодзённую, упартую барацьбу за новы культурны быт, за паляпшэньне ўмоў гэтага быту, умоў заняткаў, за якасьць ведаў. Яны, пакуль што, не жадаюць разбройвацца і гэтую барацьбу яны будуць вясьці, пакуль у ёй будзе хоць малейшая патрэба.

Нядаўна я праглядаў архіў „Кузьні Асьветы".

Як на экране прамільгнулі „Смотр бібліятэкі, габінэтаў, інтэрнатаў, сталоўкі, „без языка", прадметныя камісіі, ваенізацыя, камсамольскае і партыйнае жыцьцё, „па аддзяленьнях", „дзярж. экз. альбо дыплёмная праца", вечары і іншае і іншае.

Вялізны фэльетон аб нашых вечарох у 2-м нумары „Шляху Студэнцтва" і кампанія ўзнятая „Кузьняй" забілі трывогу і далі моцны штурхач у сэнсе паляпшэньня якасьці нашых вечароў. Тое самае, прыблізна, з большым ці меншым залогам у бок сваіх факультэцкіх умоў і інтарэсаў, мы знойдзем і ў другіх нашых насьценгазетах „Трыбуне", „Мэдфакаўцы", „Голас Рабфакаўца".

За новы быт, за здаровы быт—вось за што ратуе маленькая, але вострая, з жалам, насьценгазэтка інтэрнату „Быт Інтэрнату“. Шмат каму горача зрабілася ад яе хлёсткіх нататак.

Няма такой галіны нашага жыцьця, няма такога кутку, куды-б не заглянула зоркае вока нашага друку.

Крок за крокам паляпшаюцца ўмовы нашага жыцьця і вучобы, і нямалая заслуга ў гэтым належыць нашаму друку.

Праца рэдкалегій—праца цяжкая і адказная. І ў ёй яшчэ ёсьць досыць недахопаў.




Цяжкое фінансавае становішча. Недастатковая праца з студкорамі. Няма сувязі з рабселькораўскім рухам. Мала студкораўскіх заметак у пэрыядычным друку. Кульгае беларуская пісьменнасьць. Матар'ял недастаткова падаецца на беларускай мове.

Цяжкасьць падшуканьня і выкарыстаньня асоб, якія ўмеюць добра маляваць. Перагружанасьць сяброў рэдкалегій іншай грамадзкай працай і г. д. і г. д.

Але ёсьць яшчэ адзін момант, які можа значна падарваць, як аўтарытэт, так і наогул працу рэдкалегій: гэта—ня хуткае рэагіраваньне некаторых нашых органаў на заметкі зьмяшчаемыя ў друку.

Гэта тычыцца галоўным чынам нашых адміністрацыйна-вучэбных органаў. Аб гэтым, як раз, гаворыць артыкул у апошнім нумары „Кузьні Асьветы“ пад назвай „Як нам адказваюць“.

З такімі адносінамі мы павінны рашуча змагацца, бо гэта ў значнай меры шкодзіць працы.

**Не-Чэхаў**

# Насьценная газэта

Вісіць яна, гэтая газэта, на сьцяне аднаго з калідораў у будынку Пэдфаку. Разьмеры яе дасягаюць да 5 кв. мэтр., а называецца яна „Кузьня Асьветы, № 8“. Кожны студэнт мае права чэрпаць з яе абедзьвюма рукамі пэрлы стылістыкі, і неабмежавана ўзбагачаць свой беларускі лексыкон. Падыходзім да газэты і чытаем:

„... Некаторыя сябры фракцыі ня цікавяцца працай. Прафкому трэба такіх выявіць і адазваць, кааптыраваўшы ўзамен лепшых“.

„... Наведваець лекцыі сказачна мала. Вінаваты ў аснаўным кіраўнік і агульная пастаноўка яго выкладаньня. Гэтая думка зьяўляецца пануючай сярод студфракцыі студэнцтва. І вось, у адзін прыгожы вечар стаіць даклад аб выкладаньні пэдагогікі на пасяджэньні прадметнай камісіі“.

„... Жалак тэй хто думае“...

„... Адсутнасьць якіх бы то ні было трэньняў паміж экскурсантамі, поўны і вольны каляктывізм, меўшы мейсца ў нас, багацьце і цэннасьць экскурсыі застануцца у памятку якога з вудзельнікаў“...

„... Упаўне правільна“...

„... Косьвеным чынам папрок у несьвядомасьці“..

„... Не раджаюцца лі беларусы з атрафіраванымі пачуцьцямі эстэтыкі“.

„... Будзем здрава глядзець і нямнога крытычна адносіцца“.

„... Нэўр іх б‘ёцца ва унісон з асобай з імі ізабражаемай“.

„... Бачыш ня сыгранае, а самую як ні ёсьць жыцьцё з усімі яе адценкамі адзетае ў розныя эпохі“.

„... У асаблівасьці калі артысты ня рухаюцца па якой-то „касательной к искусству“, а заўсёды зачапляе самую яго сутнасьць, даваючы глыбокі мастацкі зьмест“.

„... Цягнік дзьвінуўся“.

„... Золотыя, серебряныя, лазурныя или из слоновой кости украшения на всевозможные лады из изысканной тонкости наполняют везде и повсюду эти хоромы. Все это создает впечатление чего-то фантастического, сказочнага. Особенно красивы здесь: янтарная зала, огромныя стены которой вылеплены и склеены из дорожайшего янтаря“.

„Osobiście w kierunku musi pokazać swoją aktywność nasz BPU stojąby to niedaleko od władzy faszystckiej Polski“...

„... Ад рэдкалегіі: часткова апраўдваючы нядобрае знаемства аўтара заявы з беларускай мовай, рэдкалегія ня можа згадзіцца з ім у тым, што у пачатку—заявы магчыма быць і з памылкамі. Ня ведаеш яшчэ добра белмовы—дык зьвярніся за дапамогай к таварышом, а падаваць у дэканат няпісьменныя заявы, кампрамятуючыя студэнцтва—недапусьціма“.

Хоць ты і рэдкалегія, а няпісьменная.

Рэдкалегія „Шлях Студэнцтва“ адзначае, што няпісьменнасьць пануе ўва ўсіх аб‘явах, насьценгазэтах, пратаколах усіх нашых арганізацыяў. З гэтым мы павінны павесьці рашучую барацьбу.

# ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

**І. Карась**

## Да перавыбараў бюро ячэйкі КП(б)Б

Пытаньне культурнай рэвалюцыі, пастаўленае, за апошнія часы ўва ўсю шырыню зьяўляецца пытаньнем, ад вырашэньня якога залежыць пасьпяховая пабудова соцыялізму.

Значэньне вышэйшай школы на гэтым баявым у сучасны момант культурным фронце вялізарнае.

Для больш пасьпяховага прасоўваньня па шляху соцыялістычнага будаўніцтва нам патрэбны свае кадры спэцыялістых і навуковых працаўнікоў; пры чым, патрэбны ня проста спэцыялістыя, а высока кваліфікаваныя і культурныя спэцыялістыя—грамадзкія дзеячы, сьвядомыя барацьбіты за пабудову соцыялізму.

Такая пастаноўка пытаньня патрабуе ад усіх працаўнікоў, студэнцтва і, ў першую чаргу, парторганізацыі БДУ ўдасканаленьня і палепшаньня ўсяе нашае працы, праверкі і ўвязкі паміж сабою ўсіх зьвеньняў яе.

Мы маем дастатковую матар'яльную базу (абсталяваньне клінік, катэдр, габінэтаў, высокая, параўнаўча, зарплата навуковых працаўнікоў) для выкананьня ўсіх прад'яўленых нам запатрабаваньняў.

Мы ня можам паскардзіцца на няўважлівасьць з боку партыйных і савецкіх органаў і грамадзкасьці. Лепшым прыкладам гэтай уважлівасьці зьяўляецца пабудова ўнівэрсытэцкага гарадку, у сувязі з чым адчыняюцца новыя надзвычайна вялікія пэрспэктывы навукова-вучэбнай работы. Акадэмічная якасьць навуковых працаўнікоў з году ў год паляпшаецца.

Партыйная організацыя ў асноўным здаровая і працаздольная. Гэта-ж можна сказаць і ў адносінах да камсамольскай організацыі БДУ.

З гэтага відаць, што маюцца ўсе патрэбныя прадпасылкі для выкананьня пастаўленых задач[1]).

*Галоўнейшае, чаму павінна быць падпарадкавана ўсё астатняе—гэта вучоба.* Справа з акадэмпасьпяховасьцю з фармальнага боку на гэты год у нас стаіць амаль здавальняюча. У параўнаньні з 1925-26, у 1926-27 нав. годзе акадэмпасьпяховасьць узрасла на асноўных факультэтах у сярэднім з 77 да 84 проц., і гэта ня гледзячы на тое, што Праўгас за той-жа час „зьехаў" на 5 проц.

Дамагаючыся большага павялічэньня акадэмпасьпяховасьці, асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на яе якасьць.

*„Арапнікам" і ўсім тым, хто ў працягу году не заглядае ў кніжку, а толькі „нашармака" здае залікі—ня месца ў БДУ.* Беларускі Дзярж. Ун-т—не праходны двор, як зусім правільна сказаў рэктар унівэрсытэту проф. Пічэта.

---

[1]) Мы маем на ўвазе наступнае палепшаньне матар'яльнага становішча, у прыватнасьці, павялічэньне стыпэндыі. Неабходнасьць гэтага зьяўляецца для ўсіх аксыомай і гэтага пытаньня наогул мы ў артыкуле не зачапляем.

*„Нашы дарагія камуністыя і камсамольцы горш работаюць над навукай, чымся непартыйныя. Гэтага больш цярпець нельга: атрымоўваеш ты хлеб ад пролетарыяту, які паслаў цябе ў вышэйшую навуковую установу,—будзь ласкаў працаваць і займацца справай, інакш трэба гнаць цябе з вышэйшай навучальнай установы"*. Гэтае палажэньне, якое т. Бухарын высунуў у сваім дакладзе на XVI Маскоўскай губпартконфэрэнцыі, можа быць, амаль што, цалкам аднесена і да некаторай часткі нашых партыйцаў і камсамольцаў-студэнтаў.

*Парторганізацыя ўнівэрсытэту павінна дабіцца таго, каб камуністыя і камсамольцы ішлі ўперадзе па акадэмпасьпяховасьці.*

Праўда, да гэтай пары, да і цяпер яшчэ, акадэмпасьпяховасьці партыйцаў і камсамольцаў значна перашкаджае перагрузка грамадзкай працай. Але ў гэтым мы самі вінаватыя. Да будучага навучальнага году гэтае зьявішча неабходна канчаткова зьнішчыць. Трэба ўзяць за правіла, што кожны з партыйцаў, ці камсамольцаў не павінен мець больш аднаго абавязку. У мэтах падняцьця акадэмпасьпяховасьці, трэба будзе прапрацаваць і такое пытаньне, як магчымасьць вызваленьня ад усякай грамадзкай працы студэнцтва першага і апошняга, асабліва апошняга, курсаў. Трэба ўзяць больш рашучы курс на высоўваньне на кіраўнічую працу непартыйнага студэнцтва.

*Новаму спэцыялістаму бяз вопыту і навыкаў грамадзкай працы —грош цана.* Адных тэорэтычных ведаў цяпер мала. Значыць і адгэтуль паўстае задача больш роўналежнай нагрузкі і ўвязкі яе з будучай спэцыяльнасьцю студэнта.

Дырэктыва аб 6-гадзіннай нагрузцы павінна быць выканана цалкам Шматпрадметнасьць, якая ў асноўным толькі перагружае студэнтаў і прыводзіць да паралелізму ў вучэбных дысцыплінах, а таксама некаторая анархія ў мэтодолёгіі выкладаньня—павінны быць зьнішчаны. Вучэбныя програмы трэба пабудаваць з такім разьлікам, каб мелася магчымасьць атрымаць больш глыбокія і асноўныя веды па тэй спэцыяльнасьці ў галіне якой студэнт будзе працаваць па сканчэньні ВНУ. Гэта-ж дасьць і некаторае павялічэньне мінімуму вольнага часу, як студэнт зможа скарыстаць для грамадзкае працы і працы ў розных студэнцкіх гуртках.

Актывізацыя мэтадаў выкладаньня ў гэтай справе таксама павінна займаць не апошняе месца.

Колькасных ведаў для чырвонага спэцыялістага мала. Апрача ўсяго і ў першую чаргу ён павінен быць сьвядомым барацьбітом за справу сацыялізму. Калекі і „ныцікі" нам непатрэбны. З гэтае прычыны неабходна зьвярнуць больш увагі на ідэёвы зьмест дысцыплін, што выкладаюцца ва ўн—це. Ад некаторых з іх, і асабліва, так званых, дысцыплін чыстае навукі, матэрыялізмам і марксызмам і ня пахне. Вольна, або нявольна, некаторыя з нашых навуковых працаўнікоў, праціскваючы ідэалістычныя і іншыя, варожыя пралетарскай ідэолёгіі, погляды, льлюць ваду на млын ворага.

Шахцінская справа сьведчыць, што вораг разьбіты ў грамадзянскай бойцы, ня сьпіць, што ён зьмяніў толькі мэтады барацьбы і што ён будзе імкнуцца ў тэорыю—магутны сродак жыцьця і барацьбы чалавека—з тым, каб, скарыстоўваючы цяжкасьць пераходнага пэрыоду, уносіць блытаніну ў розум нашых папутчыкаў, сьцягваць нас на няправільны шлях. Волю і погляды будучых спэцыялістых мы павінны не разжыжаць, а загартоўваць. *У сувязі з усім гэтым, у вучэбнай справе неабходна дабіцца таго, каб выкладаньне ва ўсіх галінах навукі было прасякнута марксыцкім сьветапоглядам.* За выкананьнем гэтага трэба

ўстанавіць адміністрацыйны і грамадзкі кантроль. Трэба расштурхаць марксыцкую думку, якая ў БДУ знаходзіцца ў паўдрымотным стане, зрабіць яе ваінствуючай. „Выкладаньне“ варожых нам поглядаў патрэбна разаблачаць. Трэба думаць, што ў справе барацьбы за прывіцьцё дыялектычнага мэтаду і марксыцкага сьветапогляду нам дапамогуць тыя навуковыя працаўнікі, якія і цяпер сумленна змагаюцца за гэта.

Неабходна значна палепшыць выкладаньне такіх вартных дысцыплін, як Ленінізм і Гісторыя партыі, якія маюць надзвычайнае значэньне ў выхоўваньні студэнцтва. Наведваньне гэтых лекцый студэнтамі, і асабліва партыйцамі і камсамольцамі, трэба зрабіць абавязковым.

Ня меншай перасьцярогай імкненьням ворага зьяўляецца павялічэньне рабочых у складзе студэнцтва. Той процант, які маецца ў складзе студэнцтва асноўных факультэтаў (16,3), у які ўваходзяць ня толькі самі рабочыя, але і дзеці рабочых, ні ў якім разе нельга лічыць здавальняючым. У будучым, пры прыёме ў ВНУ, трэба пільна сачыць, каб не пападалі к нам у ВНУ соцыяльна варожыя нам элемэнты. Процант рабочых, устаноўлены НКА, у выніку ўвядзеньня курыяльнай сыстэмы прыёму ў ВНУ, павінен разглядацца, як самы мінімальны, павялічэньне якога неабмяжавана. Нельга прызнаць нармальным становішча, калі студэнты, скончываючыя Рабфак БДУ, імкнуцца паступіць у ВНУ Масквы і Ленінграду. Гэтакім імкненьням нельга патураць, бо мы рызыкуем адвесьці да сябе тое рэчышча, па якому, галоўным чынам, павінен йсьці прыток рабочых на асноўныя факультэты нашага Унівэрсытэту.

Другой сацыяльнай групай, якой павінны быць дадзены прывілеі, зьяўляюцца блізкія да нас, праверанныя на грамадзянскай працы, сяляне беднякі і серадня́кі. Абавязковым таксама зьяўляецца павялічэньне % камуністых на літаратурна-лінгвістычным аддзяленьні Пэдфаку.

*Зусім ня менш вартнай задачай зьяўляецца падрыхтоўка сваіх кадраў навуковых працаўнікоў з ліку мясцовага насельніцтва.* Мы ўжо маем некаторыя вынікі ў гэтай галіне. Выходзячы з матар'яльных умоў, магло-быць значна лепш, але ў гэтай справе ёсьць шэраг акалічнасьцяй, якія ёй перашкаджаюць. Папершае, гэта справа для нас новая. У нашым Унівэрсытэце, як нядаўна заснаваным, няма яшчэ належнага вопыту. Шэраг маладых навуковых працаўнікоў (асьпіранты, ордынатары), у тым ліку і партыйцы, скардзяцца на адсутнасьць належнага навуковага кіраўніцтва. Ёсьць катэдры, дзе гэтакае кіраўніцтва зусім адсутнічае. Пытаньнямі палепшаньня кіраўніцтва малодшымі навуковымі працаўнікамі з боку „шэфаў“, праўленьне Ун-ту стала больш-менш сур'ёзна цікавіцца толькі ў апошнім годзе.

Таксама прычынай, якая перашкаджае ў гэтай справе, зьяўляюцца г. зв. „акадэмічныя традыцыі“, якія у горшым сваім выглядзе моцна яшчэ сядзяць у значнай частцы прафэсароў і, у асаблівасьці, прафэсароў Мэдфаку. З прычыны гэтых традыцый шмат якія навуковыя працаўнікі ў справе высоўваньня на навуковую працу падыходзяць з адной меркай, якою зьяўляецца акадэмпасьпяховасьць. Тое, што іншы з гэтых „архі пасьпяваючых“ ніякага ўдзелу ў грамадзкай працы ня прымаў і ёю ня цікавіўся, а толькі мазоліў вочы прафэсару, што ён зьяўляецца выхадцам з чуждай пралетарыяту соцыяльнай групоўкі і наогул ня мае ніякай грамадзкай каштоўнасьці, гэта шмат якіх з нашых прафэсароў ня тычыцца. Гэтыя-ж „традыцыі“ адбіваюцца на ўзаемаадносінах „шэфаў“ з сваімі „падшэфнымі“.

У падобным стане справы падрыхтоўкі новых кадраў высокакваліфікаваных спэцыялістых і навуковых працаўнікоў вінаватая парторга-

нізацыя ун-ту, якая да апошняй зімы займаліся гэтай справай выпадкова. З гэтае прычыны амаль ніхто з маладых катэгорый непартыйных навуковых працаўнікоў, у высоўваньні якіх прымала ўдзел ячэйка, ня ўцягнуты ў грамадзкую працу. Яны аддаены самім сабе, што таіць небясьпеку аддачы іх на поўную апрацоўку дробна-буржуазным і нават нэпманаўскім элемэнтам. Патрэбна, па меншай меры, уцягнуць іх у марксыцкія гурткі.

*Паважана адносячыся і шануючы лепшую частку старых прафэсароў, мы ўсё-ж такі проста і адкрыта павінны паставіць пытаньне. Наша партыя і пралетарская дзяржава хочуць мець сваіх спэцыялістых з ліку рабочых і сялян і пагэтаму мы патрабуем шчыра дапамагчы нам у гэтай справе.*

У сувязі з тым, што паўстала неабходнасьць скарыстаць прыхільнасьць паасобных таварышоў да навуковай працы, яшчэ ў бытнасьць іх студэнтамі, пры ун-це ўтвораны інстытут вылучэнцаў. Трэба садзейнічаць здольнасьці камуністых да навуковай працы, разгружаць іх ад грамадзкай працы.

Справе падрыхтоўкі новых кадраў навуковых працаўнікоў Праўленьне Ун-ту павінна адд ць больш увагі.

Лёзунг партыі аб разгортваньні самакрытыкі, як нельга, больш можна скарыстаць у ўмовах БДУ. Ужываньню найгоршага выгляду старых акадэмічных традыцый, каставай замкнёнасьці, нядбайству і ўсім іншым адмоўным зьявішчам, якія маюцца ў жыцьці нашага Ун-ту, „*не взирая на лица*“, павінна быць абвешчана самая рашучая барацьба.

Адзначаючы некаторыя дасягненьні ў справе правядзеньня нацполітыкі і, у прыватнасьці, беларусізацыі, мы ўсё-ж такі павінны падкрэсьліць, што нам яшчэ трэба шмат зрабіць, каб дасягнуць такога стану, калі-б можна было даць хоць такую стэрэотыпную ацэнку, як „здавальняючае“. Пастанова Праўленьня аб унядрэньні краязнаўчых элемэнтаў засталася на паперы. Беларуская мова, у штодзённым жыцьці, большасьцю студэнцтва не ўжываецца. Тэрмін пераводу некаторых дысцыплін даўно скончыўся, а „воз и ныне там“. У гэтых адносінах адстае значная частка і партыйцаў-выкладчыкаў.

Працягваючы на далейшы час, правільна праводзімую ў БДУ палітычную лінію ў адносінах нацполітыкі, *трэба рубам паставіць пытаньне аб 100% беларусізацыі ўсіх органаў і організацый БДУ і аб больш узмацненым тэмпу выкладаньня беларусізацыі і асабліва на мэдфаку і праўгасе.*

Культурна-выхаваўчая і організацыйная праца масавых і грамадзкіх організацый значна палепшылася. Абхоп масавымі мерапрыемствамі і культурнае абслугоўваньне студэнцтва пры ўмовах адсутнасьці студэнцкага клюбу можна лічыць здавальняючым. Разам з тым неабходна зьвярнуць больш увагі на якасьць гэтага абслугоўваньня, увязку апошняга з вучобай і тэй спэцыяльнасьцю, да якой студэнт рыхтуецца. Змаганьне з хворымі зьявішчамі ў быце, жыцьці і вучобе студэнцтва павіннаісьці, як па лініі культурна-выхаваўчай працы, так і па лініі больш рашучага рэагіраваньня з боку адпаведных студэнцкіх організацый і вучэбных органаў. Некалькі палепшылася праца з беспартыйным студэнцкім актывам.

Надзвычайна цікавы і каштоўны вопыт камсамольскай організацыі БДУ ў пазаунівэрсытэцкай працы (цыкл лекцый навуковых працаўнікоў для рабочай моладзі, курсы па падрыхтоўцы рабочай моладзі ў ВНУ, Рабфакі і г. д.) неабходна замацаваць і працягваць на далейшы час. У пазаунівэрсытэцкай працы наогул неабходна імкнуцца да большага абслугоўваньня рабочых мас і сувязі з імі.

За час з апошніх перавыбараў бюро ячэйкі праароблена значная праца, у сувязі з чым маецца шэраг дасягненьняў ува ўсіх галінах працы. Парторганізацыя Ун-ту, ня гледзячы на опозыцыйныя наскокі, больш, як калі-небудзь, зьяўляецца моцнай і ідэёва згуртаванай.

Гэтакая ацэнка парторганізацыі ні ў якім разе ня сьведчыць, што ў нас няма „уродов" і „уродцев". Рашучасьць лініі бюро ў адносінах барацьбы з усялякімі хворымі зьявішчамі павінна быць працягнута і на далей.

Організацыя і афармленьне фракцый у непартыйных органах і організацыях Ун-ту садзейнічала палепшаньню партыйнага кіраўніцтва і праводзімай працы.

Перавыбары бюро факультэцкіх колектываў, якія гэтымі днямі адбыліся, лішні раз сьведчаць аб жыцьцёвасьці організацыйнай формы пабудовы нашай ячэйкі. Выяўлены і высунуты новы партактыў. Уведзены ў пачатку навуч. году інстытут курсавых організатараў у асноўным таксама сябе апраўдаў, але цяпер-жа можна зрабіць заўвагу, што да падбору іх у васеньнія перавыбары (з пачатку 28/29 нав. году) неабходна аднесьціся з большай увагай, высоўваючы ў якасьці курсавых парторганізатараў больш працаздольных таварышоў.

*Кожнаму з камуністых ў паасобку неабходна бліжэй падыйсьці да непартыйнага студэнцтва; абкружаючы яго комуністычным уплывам, неабходна весьці бязьлітасную барацьбу з усялякімі, варожымі нашым гістарычным задачам, поглядамі, звычаямі, настроямі і інш. Кожнаму з партыйцаў неабходна праяўляць больш інцыятывы ў сэнсе палепшаньня форм і мэтадаў працы, якая праводзіцца ў ВНУ.*

Застанавіўшыся на галоўных момантах, адзначым што падрабязнае абгаварэньне і здаровую самакрытыку мы чакаем ад перавыбарчага сходу ячэйкі. Ад удзелу членаў ячэйкі ў абгаварэньні працы, ад уважлівых адносін да прапаноў залежыць, у галоўным, будучая работа.

Уноў абранае Бюро павінна будзе скарыстаць час летніх вакацыяў, каб падрыхтавацца да працы ў наступаючым навучальным годзе.

---

**Ф. Шульц**

# Некаторыя вынікі партадукацыі

Зусім бескарысна даказваць неабходнасьць асобнай сеткі партасьветы для партыйцаў і камсамольцаў БДУ.

Грамадзка-політычныя дысцыпліны, выкладаемыя ў нас згодна навучальнага пляну, ня ўсе яшчэ забясьпечаны марксысцкім асьвятленьнем. А з выкладаемых у марксысцкім дусе—ня ўсе яшчэ забясьпечаны бальшавіцка-ленінскім сьветапоглядам.

Пагэтаму партыйная вучоба павінна заставацца пад непасрэдным кіраўніцтвам парт. ячэйкі. Апошняя павінна зьвярнуць усю сваю ўвагу на павышэньне ўзроўню тэорэтычнае веды партыйцаў-камсамольцаў, памагчы ім шырэй аўладаць марксысцка-ленінскім сьветаглядам і глыбей усвоіць усе важнейшыя пытаньні і пастановы партыі.

Мэтад партыйнае адукацыі ў БДУ, які існаваў раней, сябе не апраўдаў і пытаньне аб зьмене мэтаду вучобы сталася прадметам дыскусіі яшчэ ў мінулым годзе. Пастанова ЦК ВКП (у маі месяцы 1927 г.) з поўнаю яснасьцю вызначыла справу арганізацыі вучобы.

Зразумела, што асноўныя прынцыпы гэтае пастановы—дабраахвотнасьць вучобы, прыстасаваньне да запросаў асобных партыйцаў і камсамольцаў, шматлічнасьць форм—зусім не вызначаюць сабою „вольнае плаваньне“ без старна і ветразі. Мы сталі на шлях устанаўленьня адзінае формы партыйнае вучобы ў БДУ, якая знайшла сваё канкрэтнае выражэньне ў арганізацыі груп самаадукацыі па пытаньнях бягучай палітыкі і груп па спэцыяльных тэматычных пытаньнях. Па ўсім БДУ было арганізавана 33 групы самаадукацыі, якія абхапілі 90% партыйцаў і камсамольцаў і 130 чал. беспартыйных. (Сюды не ўваходзяць паліт. і прафгурткі арганізаваныя Прафкомамі па факультэтах).

Мэтад заняткаў быў устаноўлены наступны. Да кожнае групы быў прымацаваны кансультант. Група склікалася штомесячна; кансультант прапанаваў некалькі тэм, папярэдня распрацаваных АПА-камісіяй, і група выбірала сабе адну з іх. Праз кожныя два тыдні члены групы маглі наведваць кансультацыі, а праз кожны месяц скліκаліся канфэрэнцыі груп для падліку вынікаў прапрацованага.

У першай палове навучальнага году, у сувязі с унутрыпартыйнай апазіцыяй, прыходзілася ўсю ўвагу груп зьбіраць выключна навокал пытаньняў унутрыпартыйных, што значна дапамагло партыйна-камсамольскай масе ўсвоіць лінію партыі і ўявіць сабе і разаблачыць дэмагогічнасьць лёзунгаў і сутнасьць апазыцыі.

У другой палове году групы займаліся вывучэньнем усіх найважнейшых партыйных пастаноў, куды ўваходзілі таксама пытаньні нацыянальнае палітыкі і культуры. У выніку гэтае працы аканчальна зьнішчаны асобныя хворыя настроі, якія мелі месца ў некаторых партыйцаў і камсамольцаў у часе і пасьля XV парт. зьезду.

Ня будзем спыняцца на цэлым шэрагу дадатных момантаў у працы груп самаадукацыі, а зьвернем увагу на асноўныя недахопы, якія павінны быць улічаны і зьнішчаны ў будучым годзе.

Першае. Групы пачалі камплектавацца толькі ў кастрычніку, бо барацьба за партыю адсунула на некаторы час пытаньне партвучобы на другі плян. У выніку—фактычнае скарачэньне часу вучобы.

Другое. Не была сваечасова прароблена адпаведная праца разьясьняючая партыйцам і камсамольцам значэньне пераходу на новыя формы вучобы. Дзякуючы гэтаму некаторая частка партыйцаў і камсамольцаў сваечасова не вызначалася ў групы, а самае камплектаваньне мела характар некаторае стыхійнасьці і ў групах аказаліся асобы з неаднолькавым узроўнем ведаў і падрыхтоўкі.

Трэйцяе. Нездавальняючае наведваньне канфэрэнцый (у сярэднім 60—65%, а ў асобных групах нават 50%). Заданыя матар'ялы членамі груп часам не апрацоўваліся даволі глыбока і ў выніку—часты зрыў заняткаў, што перашкаджала ў рэгулярным скліканьні канфэрэнцый.

Чацьвертае. Канфэрэнцыі скліκаліся на паасобных факультэтах (Пэдфак і Праўгас) у 10 гадз. веч. Бяручы пад увагу штодзенную акадэмічную нагрузку, партыйную і грамадзкую нагрузку членаў груп, службовую нагрузку па за ўнівэрсытэтам, недастатную матар'яльную забясьпечнасьць стыпэндыятаў,—стане зусім зразумела, чаму заняткі часта праходзілі нудна, без дабраахвотнае актыўнасьці, з жаданьнем хутчэй звольніцца. Да гэтага трэба яшчэ дадаць няўменьне кансультантаў у паасобных выпадках зацікавіць групу.

Пятае. Недапусьцімыя факты зрыву канфэрэнцый з-за таго, што не зьявіўся той ці іншы кансультант групы. Такія выпадкі былі і яны надзвычайна нядобра адбіваліся на працы, бо кансультанты такімі адносінамі давалі дрэнны прыклад, трацілі аўтарытэт у групе і „ня мелі права" вымагаць ад іншых сур'ёзных адносін да справы.

Шостае. Трэба таксама прызнацца, што праграмы ў паасобных выпадках былі залішне складаныя і грамоздкія. Праўда, што яны прызначаліся для студэнтаў, якія ўжо мелі адпаведную падрыхтоўку, але з гэтым можна згадзіцца толькі часткова, зважаючы на недахопы ў камплектаваньні гэтых груп і на яшчэ цэлы рад іншых абставін.

Сёмае. Грунтоўным недахопам была адсутнасьць здавальняючай колькасьці неабходных падручнікаў і спэцыяльнага агітпроп-габінэту для кансультацый і чытаньня матар'ялаў. Гэта стварала беганіну па чытальнях і габінэтах гораду, забіраючы лішні час.

Ня будзем спыняцца на іншых паасобных недахопах у працы гэтых груп, як, напрыклад, несваечасовая інфармацыя па паасобных факультэтах пра дзень і месца заняткаў, неадпаведнасьць, у паасобных выпадках, кансультанта з узроўнем веды свае групы і г. д. Адзначым, што значная частка пералічаных недахопаў можа быць зьнішчана (і будзе зьнішчана) пры правядзеньні наступных мерапрыемстваў:

1. Поўны пераход на прынцып дабраахвотнае вучобы. Трэба адмовіцца ад такіх фактаў, якія мелі месца ў гэтым годзе, калі партыйцаў і камсамольцаў прымацоўвалі да груп бяз іхняе згоды Трэба ў час зрабіць раз'ясьняючую працу, у час выявіць запросы і жаданьні кожнага партыйца і камсамольца, каб мець магчымасьць усю арганізацыйна-падрыхтоўчую працу скончыць на 1-ае кастрычніка і адразу прыступіць да заняткаў.

Трэба заўважыць, што мы часта гаворым пра сваечасовую падрыхтоўку, а на справе выходзіць нешта зусім іншае. Трэба прыняць усе меры да таго, каб на будучы год падрыхтоўка была выканана поўнасьцю, бо ад гэтага залежыць вельмі шмат і гэта вызначае ўсю далейшую працу.

2. Уважна падабраць кадр кансультантаў. Трэба пайсьці на скарачэньне колькасьці груп, на пашырэньне самых груп, калі гэта будзе патрэбна, але затое падабраць кадр працаўнікоў, якія былі-б у дастатнай ступені марксысцкі-ленінскі вытрыманыя, і маглі-б зацікавіць слухачоў, якія добрасумленна адносіліся-б да ўскладзеных на іх абавязкаў.

Побач з гэтым трэба раз назаўсёды дабіцца палепшаньня выкладаньня грамадзка-палітычных дысцыплін у БДУ. Мы лічым, што партыйцы і камсамольцы павінны акуратна наведваць лекцыі гэтых дысцыплін і актыўна ўдзельнічаць у сэмінарах. Ад партыйцаў і камсамольцаў выкладчыкі гэтых дысцыплін павінны вымагаць больш, чым ад іншых студэнтаў. Гэтыя павышаныя вымаганьні павінны быць поўнасьцю і аўтарытэтна намі падтрыманы.

Мы ня думаем, што ў будучым годзе прыдзецца зьмяніць самую ўстаноўку справы партыйнае асьветы, бо цяжка прыдумаць лепшы мэтад вучобы пры нашых умовах і магчымасьцях, але цэлы рад вышэйпаданых недахопаў павінен быць зьнішчаны.

Партыйцы і камсамольцы за час свайго пабыту ў унівэрсытэце павінны аўладаць марксыцка-ленінскай зброяй, неабходнаю ў змаганьні за сацыялістычнае будаўніцтва.

---

**М. Ша—валаў**

# „Апазыцыйная" гармата

Гэта была запраўдная гармата. Тая самая, што грымела на палёх Беларусі і пад сьценамі Варшавы ў годы грамадзянскае вайны.

Калі сьціхлі ваенныя грымоты, гармату адчысьцілі ад шэравата-чорнага нагару, абмылі цяжка-кованыя колы ад гразі палёў і дарог. Цяпер яна з парадным выглядам стаіць на шырокай паласе вучэбнага вучастку. Цяпер гармата стала паказальнай—яна, разам з усімі сваімі прыладамі, зьяўляецца прадметам глыбокага дасьледваньня для вайсковых гурткоў.

Вайсковы лектар цярпліва тлумачыць групе камуністаў:

„Гэта пазыцыйная гармата, а гэта набой на яе, які паражае супраціўніка. Ступень паражэньня залежыць ад шмат якіх прычын, а перад усім, ад правільнага прыцэлу. Пазыцыйная гармата страляе, як пад адкрытых, так і па закрытых цэлях..."

Партыйцы слухаюць: „апазыцыйная" гармата, адкрытыя і закрытыя цэлі—усё гэта неяк знаёма для кожнага камуніста. Так. Калі ў 1924 г. апазыцыйныя залпы былі яшчэ толькі „вінтовачнымі", дык у 1925-27 г. ужо „апазыцыйныя гармата" бязупынна грымела, як па адкрытых, так і па закрытых цэлях.

Як-жа не памятаць: хутка прабягаюць па думках лясныя сходы, „пэтыцыйныя" кампаніі ідуць адна за аднэю—чым не страляніна па шчыльных радох партыі?

Але „апазыцыйная гармата" мела благіх наводчыкаў і брала кепскі прыцэл. Яна страляла старымі і нічога нявартымі набоямі. І шчыльныя жалезныя рады партыі захаваліся такімі-ж.

„Гармата" выбівала адзіночак, параніла і вырвала з жалезных радоў партыі тыя адзінкі, што ня вытрымалі іспыту. Шмат хто з параненых апазыцыйнаю „страляніна" загаілі свае раны і зноў сталі ў рады партыі.

А гармата ўсё страляла, страляла, аж пакуль ня быў страчаны ўвесь ідэйны запас.

У ячэйцы таксама былі сьляды ад гэтае стральбы. Але толькі адзінкі выбылі з радоў. Ячэйка загаіла свае раны, стала жыць здаровым партыйным жыцьцём,—а партыя ў цэлым прыкончыла апазыцыйную страляніну па сваіх радох.

Як-жа ня ўспомніць.

Гэта-ж усё скончылася так нядаўна.

Лектар таксама закончыў: „Ну, вось, з пазыцыйнаю гарматай мы скончылі. Пяройдзем цяпер у хэмічны габінэт".

---

**І. Фрыдман**

# Наша беларусізацыя

*(Яч. ЛКСМБ БДУ)*

У мінулым акадэмічным годзе была зроблена праверка ведаў беларускай мовы. Праверка паказала, што ўладаюць мовай толькі каля 10 процантаў камсамольцаў. Гэта заставіла вылучаную камісію даць сур'ёзныя папярэджаньні ў вызначаны тэрмін вывучыць і ўжываць апошнюю ў штодзённым жыцьці.

Праўда дзелаводзтва ў ячэйцы было пераведзена на родную мову, і на сходах, як ноўшаства, можна было пачуць беларускую гутарку і выступленьне пабеларуску.

Зараз аб беларусізацыі мы можам гаварыць больш стала, маючы некаторыя канкрэтныя вынікі. На акадэмічных занятках камсамольцы прашлі „правапіс" і граматыку. Большая частка чытае беларускую літаратуру. Даволі часта сярод камсамольцаў, у штодзенным жыцьці можна чуць беларускую гутарку.

На апошніх сходах калектываў ЛКСМБ можна было чуць больш дакладаў і выступленьняў пабеларуску. Першым калектывам ідзе, у гэтых адносінах, Пэдфак, за ім Праўгас. Цягнецца апошнім, як кажуць „у хвасьце", калектывы рабфаку і мэдфаку.

Аднак, справа не ў афіцыйных выступленьнях. Нас больш цікавіць,—як нашы камсамольцы ўжываюць мову ў штодзенным жыцьці: у інтэрнату, на кватэрах, у гутарках паміж сабою? Тут справа ня зусім добра. Праведзеная нарада „ядраў быту" камсамольцаў паказала, што больш камсамольцаў карыстаецца мовай расейскай.

Чым гэта тлумачыцца? Прычын некалькі: частка камсамольцаў прыбыўшых з іншых рэспублік і з за-мяжы ня ведае мовы. Але горш за ўсе, што ёсьць і такія групы камсамольцаў, якія лічаць што „на русском языке легче выражать мысли последовательно и культурно" (!?) Другая вельмі характэрная, палітычна-шкодная нам, думка характэрызуючая незразуменьне палітыкі партыі ў адносінах беларусізацыі, падтрымоўваючая ўплыў „вялікадзяржаўнага" шовінізму. Гэта група лічыць, што: „беларуская мова,—мова някультурная, мова мужыцкая, унедраючаяся так, як пры палітыцы царскага ўраду (?!). Каб трымаць у некультурнасьці акраіны. Яны хочуць быць істымі паклоньнікамі мовы расейскай(?!)."

На жаль прыходзіцца канстатаваць, што такая русіфікацыя,—бязглузьдзіца, мае мейсца і на апошнім курсе рабфаку. Там ёсьць моцная цяга ў Маскву, і наогул за межы Беларусі, матывуючы гэта непатрэбнасьцю вывучэньня беларускай мовы, у той час, як ад рабфаку мы павінны былі чакаць здаровую струю ў справе паляпшэньня далейшай беларусізацыі ВНУ.

Наведваньне камсамольцамі лекцыяў і сэмінараў па беларускай мове наогул здавальняюча, але ўсяго (акрамя рабфаку) вучыцца толькі 115 камсамольцаў з агульнага ліку 500 чал.

Чытаемасьць беларускіх газэт дрэнная. Газэта „Зьвязда" выпісваецца слаба. На ўвесь інтэрнат 56 пакояў выпісваецца ўсяго 10 экз. На рабфаку ёсьць выпадкі, калі і выпісваемыя беларускія газэты зусім ня чытаюцца.

Як добры пачатак, трэба адзначыць, што сярод усіх пакояў інтэрнату выдзяляюцца 2—3 пакоі, жыхары якіх выключна гутараць на беларускай мове, чытаюць літаратуру і беларусізіруюцца наогул, але гэта толькі „оазісы", якія павінны ахапіць у будучым усе інтэрнаты і быт студэнтаў.

Абсьледваньне, стану беларусізацыі ў Бел. Дз. Унів., праведзенае Нацкамісіяй ЦВК БССР, выявіла шэраг недахопаў у гэтым напрамку. Камісія вынесла шэраг прапаноў. Гэтыя прапановы, як і наогул прапановы партыі павінны ў першую чаргу праводзіцца сярод камсамольскай масы.

Патрэбна яшчэ і яшчэ раз завастрыць гэта пытаньне і павесьці рашучую барацьбу з выяўленымі русіфікатарскімі і шавіністычнымі настроямі.

Праводзімае зараз у групах самаадукацыі, вывучэньне нацпалітыкі партыі дапаможа разабрацца ў неяснасьцях гэтага пытаньня. Паставім рашуча задачу беларусізацыі пад лёзунгам „менш слоў—больш дзела!“

---

**А. Яворскі**

# Праца курсаў па падрыхтоўцы ў ВНУ

У рабочай моладзі маецца вялікае імкненьне да вучобы, але гэтаму вельмі часта перашкаджае слабая падрыхтоўка да паступленьня ў тую, ці іншую навучальную ўстанову. Камсамольская і наогул студэнцкія арганізацыі, памятуючы важнасьць пытаньня дапамогі рабочай моладзі заваяваць належнае мейсца ў нашых навучальных установах, паставілі перад сабою задачу дапамагчы ў ажыцьцяўленьні гэтай важнай справы.

Вынікам гэтага зьявілася арганізацыя курсаў для рабочай моладзі пры ячэйцы ЛКСМБ. Мэта курсаў, з аднаго боку, падрыхтаваць рабочую моладзь для паступленьня ў ВНУ, Тэхнікумы і Рабфакі, а з другога— трымаць сталую сувязь з вытворчасьцю.

Курсы ахапілі 380 чал. Падзел быў зроблены на 9 груп, адпаведна мэты падрыхтоўкі. У ВНУ, рыхтуецца 170 чал., у тэхнікумы—90 чал. і ў рабфакі 120 чал. Па сацыяльнаму складу курсы амаль-што поўнасьцю складаюцца з рабочых і дзяцей рабочых. Маецца невялічкая частка сялян і служачых.

Выкладчыкамі на курсах працуюць студэнты пэдфаку і рабфаку БДУ. Колектыў выкладчыкаў складаецца з 54 чал. Падрыхтоўка вядзецца па: 1) грамадазнаўству, 2) прыродазнаўству, 3) фізыцы, 4) матэматыцы, 5) расейскай і беларускай літаратуры.

Выкладаньне часткова, але ня ўсё, вядзецца на беларускай мове.

Ня гледзячы на тое, што—выкладаньне вядзецца студэнтамі, ёсьць значныя вынікі ў сэнсе практычнага самастойнага прапрацаваньня матар'ялаў, слухачамі (асабліва па фізыцы і матэматыцы). Па пытаньнях матэматыкі арганізавана кансультацыя. Зацікаўленасьць працай курсаў з боку слухачоў вельмі добрая, як у сэнсе наведваньня заняткаў, так і прапрацоўкі матар'ялаў.

Недахопамі ў працы курсаў трэба лічыць: частую зьмену выкладчыкаў па некаторым дысцыплінам, а таксама перабоі ў здавальненьні падручнікамі. Галоўны недахоп гэта тое, што курсы распачалі сваю працу вельмі позна.

Вялізарны наплыў на курсы, нават з бліжэйшых вёсак, добры настрой слухачоў, гавораць за тое, што задача пастаўлена яч. ЛКСМБ і Выканбюро своечасова і мэта дасягнута. Вынікі вядома відавочны і заслугоўваюць на далейшае самага энэргічнага падтрыманьня.

Але на будучы год, каб лепей арганізаваць гэтую працу, неабходна распачаць яе з пачатку навучальнага году. Стала замацаваць выкладчыкаў. Прыстасаваць працу курсаў да часу і ўмоў рабочай моладзі, працуючай на вытворчасьці. Навакол працы курсаў скласьці грамадзкую думку, паставіўшы яе на адно з першых мейсц грамадзкасьці, бо гэта праца зьяўляецца па сутнасьці адным з зьвён вялікага ланцугу „культурнай рэвалюцыі“.

---

# ВУЧЭБНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

М. Барсукоў

## Галоўныя шляхі разьвіцьця вышэйшай мэдычнай адукацыі ў БССР

Для Беларусі важна мець ня толькі выстарчальную колькасьць дактароў і наогул кваліфікаваных мэдычных працаўнікоў, але таксама трэба, каб гэтыя спэцыялістыя адпавядалі тым вымаганьням жыцьця, якія ставіць перад намі наша Рэспубліка.

Асноўным рынкам збыту ў нас зьяўляецца вёска, бо горад больш менш забясьпечаны дактарамі і, калі ён і адчувае патрэбу, дык ужо ў спэцыялістых па асобных галінах мэдыцыны На моцы гэтага самы характар мэдычнай адукацыі павінен быць дапасаваны, галоўным чынам, да ўмоў вясковага мэдыцынскага вучастку, дзе прыдзецца працаваць большасьці дактароў, якія скончаць Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт.

Ужо шмат разоў на беларускіх мэдычных зьездах і нарадах ставілася пытаньне аб тых вымаганьнях, якія стаўляе доктару вёска. Мясцовыя працаўнікі скардзіліся, што вельмі часта прыходзіцца бачыць некаторую бязраднасьць, якую выяўляюць маладыя дактары, пападаючы з унівэрсытэцкай лаўкі проста ў вясковае асяродзьдзе, і няўмеласьць арыентавацца ў умовах сялянскага быту, сялянскіх запатрабаваньняў, сялянскай псыхікі.

Зусім нярэдка здараецца, што селянін ідзе з амбуляторыі нездаволены дапамогаю доктара, або што доктар, каб пазбыцца дакучлівага пацыента, прапісвае яму ўсялякія рэцэптурныя формулы, замест таго каб глыбей падыйсьці да прычыны хваробы.

На жаль, прыходзіцца прызнацца, што большая частка хворых, якімі завалены нашы акруговыя больніцы, маглі-б лячыцца ў раёнах і што зусім немэтазгодна прымушаць іх выдаваць грошы на паездкі ў горад. Маладыя дактары, стараючыся кожны выпадак, які хоць мала адрозьніваецца ад звычайнага, прызнаваць за цяжкі, ўсялякімі спосабамі выкручваюцца ад паглыбленых адносін да хвароб, з якімі ім прыходзіцца сустракацца. Вядома, тут ня трэба пераходзіць пэўнай мяжы і дрэнна было-б, каб у маладых дактароў была ў ужытку занадта вялікая самаўпэўненасьць і ўсеведаньне, але не аб гэтым ідзе гутарка. Мы гаворым адно аб тых фактах, калі звычайны плеўрыт, запаленьне лёгкіх, кіла, выпад маткі—лечацца не ў раённай больніцы, а ў вакрузе і, тым самым, адбіраюць койку ад такіх хворых, якія сапраўды патрабуюць консультацыі кваліфікаваных, дасьведчаных спэцыялістых.

Найслабейшым месцам у мэдычнай адукацыі маладога доктара зьяўляецца яго няўмеласьць уладаць дакторскай тэхнікай, але самае галоўнае—гэта нязнаньне, як спраўляцца каля ложка хворага, не кажучы ўжо аб тым, што няма падыходу да ацэнкі сацыяльна-гігіенічных умоў, якія выклікаюць хваробу. У выніку—страх, няўпэўненасьць у сваіх дзеяньнях і панічны жах перад пэрспэктываю папасьці ў вёску, спаткацца з цяжкаю запраўднасьцю. Адным словам, атрымоўваецца такое ўра-

жаньне, што доктар у унівэрсытэце пампуецца толькі тэорыяй, а калі справа даходзіць да практыкі, дык ён адразу пачынае здаваць свае пазыцыі. Усё гэта разам узятае высоўвае перад намі шэраг пэўных заданьняў у справе падрыхтоўкі мэдычных працаўнікоў згодна запатрабаваньням беларускага жыцьця.

Органам аховы здароўя патрэбен доктар, які мог-бы здавальняюча ўладаць хірургічным нажом, меў-бы практычныя веды ў галіне акушорства і гінэколёгіі, а таксама меў і сацыяльна-гігіенічную адукацыю. Доктар ня можа ня ведаць простых мэтадаў лячэньня тых сацыяльна-бытавых хвароб, якія пашыраны ў нашай Рэспубліцы. Мы маем на увазе сыфіліс і трахому Нельга лічыць за нармальнае, калі для ўліваньня нэосальварсану, хворага ганяюць з раёну ў горад.

Апрача таго, што гэта б'е па кішэні—гэта не дае магчымасьці сачыць за хворым на месцы, весьці плянавае змаганьне непасрэдна там, дзе ёсьць вогнішча сыфілісу. Гэтая сыстэма паніжае аўтарытэт раённай больніцы і дае прычыну гаварыць, што вёска абслугоўваецца горш, чым горад.

Тое самае датычыцца і да профіляктычных шчапеньняў. Дактары надзвычай дрэнна знаёмы з тэхнікай і мэтодыкай гэтых шчапеньняў, напрыклад, воспы. Дактары ня ведаюць як падыйсьці да антырабічнага матар'ялу і ўсялякіх іншых шчапеньняў, якія могуць прыдацца ў вёсцы.

Для аховы здароўя асабліва важна, каб малады доктар ведаў тэхніку антырабічных шчапеньняў дзеля таго, што мы цяпер арганізуем антырабічныя пункты пры раённай больніцы; тое самае датычыцца і да воспы, бо нашы сродкі не дазваляюць мець асобнага воспапрышчэпніка. Няможна таксама забывацца пра неабходнасьць умелага падыходу ў вёсцы—ды гэта, бадай што, датычыцца і гораду—да псыхалёгіі рабочага і селяніна, арыентацыі ў бытавых момантах, уменьня прыслухоўвацца да патрэб жыцьця працоўных. Неабходна ўмець быць доктарам—грамадзкім працаўніком, не адыходзіць ад тых сацыяльных запатрабаваньняў жыцьця, без якіх немагчыма прадукцыйная праца доктара ў горадзе і ў вёсцы. Тут мы блізка падыходзім да пытаньня аб выпрацаваньні ў доктара сацыяльна-гігіенічнага сьветагляду, умарксысцкім разуменьні гэтага слова. Трэба выразна сказаць, што сёньня гэтага яшчэ няма, мы ўсе яшчэ занадта абцяжараны клінікаю (якая, да рэчы сказаць, мае і да сёньня ня зусім практычны характар) і, на так званыя, тэорэтычныя катэдры з боку студэнтаў і мэдычнага факультэту мала зьвяртаецца ўвагі. Але гэта толькі адзін бок пытаньня. Самае галоўнае тое, *што да гэтага часу мала зроблена ў галіне прафіляктызацыі нашых клінічных дысцыплін, і клінічнае выкладаньне застаецца адасобненым ад тых навук, якія імкнуцца пад клінічны матар'ял падвесьці сацыяльна-гігіенічны фундамант.*

Трэба, з першых дзён вучобы студэнтаў ля ложка хворага, паглыбляць сьвядомасьць, што анамнэз хворага будзе няпоўны, калі ўмовы працы і быту захварэўшага чалавека ня будуць выстарчальна ўлічаны і зьвязаны з яго хворасьцю. Толькі тады, калі гэты тэзіс увойдзе ў нашы клінічныя дысцыпліны,—зьменіцца псыхіка нашых маладых дактароў, і з іх будзе выпрацоўвацца ня толькі вузкі лячэбнік, вечна заняты рэцэптурнымі прописямі, але і доктар з профіляктычнымі навыкамі, які ўмее ацэніваць уплыў сацыяльнага асяродзьдзя і зьвязаць яго з прычынамі зьяўленьня данае хваробы.

Некалькі слоў трэба сказаць пра вострую патрэбу ў сваім кадры санітарных дактароў для Беларусі. У нас цяпер востры крызіс у санітарнай арганізацыі, выкліканы недахопам санітарных дактароў, адпавядаючых тым запатрабаваньням, што перад імі стаўляюцца.

Лёзунг камуністычнай партыі аб культурнай рэвалюцыі ўпіраецца ў падрыхтоўку тых працаўнікоў, якія павінны будуць памагаць дзяржаве ажыцьцявіць гэты лёзунг.

Культурная рэвалюцыя шчыльна зьвязана з элемэнтамі нашага санітарнага добрапарадку, бо без каналізацыі, добрага памяшканьня, лазьні і грамадзкага харчаваньня—трудна гаварыць аб культуры наогул, а тым больш аб сацыялістычнай. Дзеля гэтага запатрабаваньне на доктара—„санітара" будзе павялічвацца з кожным годам, таксама, як на інжынэра і тэхніка. Без санітарнае экспэртызы, бадай што, не магчыма якая небудзь праца ў галіне шырокіх аздараўляючых мерапрыемстваў. Трэба сказаць з поўнай шчырасьцю, што цяпер адукаваньне санітарнага доктара павінна быць пабудавана інакш, чым у дарэвалюцыйныя гады. Для цяперашніх часоў мала таго, што санітарны доктар ведае прычыны хваробы, але ад яго вымагаецца яшчэ ўмеласьць паказаць, як адхіліць умовы, шкодныя для здароўя працоўных і ў першую чаргу—быць гатовым даць консультацыю па санітарна-тэхнічных пытаньнях. Санітарна-гігіенічны Інстытут павінен цяпер прыцягнуць усю нашу ўвагу, зацікавіць студэнцтва і зрабіцца цэнтрам санітарна-тэхнічнай адукацыі, бо, яшчэ раз паўтараю, пытаньні санітарнага добрапарадку—гэта аснова ўсёй аховы здароўя, усёй аздараўляючай палітыкі савецкае дзяржавы.

Вось, у асноўным, тое, што цяпер устала ўва ўсёй шырыні перад нашым мэдычным факультэтам.

Усе гутаркі аб тым, што зараз для дактароў ня хопіць пасад, што ўжо няма ў дактарох вострае патрэбы,—ёсьць, вядома, недарэчныя. Ахова здароўя расьце з кожным годам, санітарна-культурныя вымаганьні павялічваюцца, мэдычная сетка пашыраецца. Патрэба ў дактарох яшчэ на шмат гадоў будзе вялікая і баяцца перавытворчасьці нельга. Але галоўнае, што трэба памятаць,—каб мэдычная адукацыя была шчыльна зьвязана з жыцьцём, з тымі практычнымі момантамі, якія высоўвае народная гаспадарка і органы аховы здароўя. Адно тады, калі доктар будзе падкованы марксызмам, адукаваны сацыяльна-тэхнічна і азнаёмлены практычна з дакторскай тэхнікай,—можна будзе сказаць, што мэдычны факультэт БДУ выканаў сваё заданьне перад Савецкай Беларусьсю.

Шмат зроблена нашым Унівэрсытэтам і можна спадзявацца, што ў будучыні і гэтыя заданьні, пастаўленыя намі, будуць выкананы.

---

**М. Кроль**

# Некалькі думак з прычыны выпуску мэдычнага факультэту

*(Пра мэтавыя устаноўкі)*

БДУ стаіць перад новым—трэйцім—выпускам мэдфаку, які ў гэтым годзе адбудзецца (часткова прынамсі) вясною. І кожнаму студэнту трэба здаць сабе справу ў тым, што яго чакае пасьля сканчэньня унівэрсытэту. Ён павінен вызначыць сабе выразную мэтавую устаноўку, падлічыць свае сілы, усе магчымасьці і рэальныя абставіны. Пакінуўшы за сабою унівэрсытэт маладыя дактары, пойдуць па трох дарогах. Найбольшая частка пойдзе на працу ў раёны, па вёсках і мястэчках. Гэтыя дактары павінны мець найлепшую падрыхтоўку, як клінічную, так і сані-

тарна-гігіенічную. Як усе дактары, яны павінны быць грамадзкімі працаўнікамі, каб маглі браць па сваіх сілах удзел у культурным уздыме раёну, і быць добра адукаванымі, разьвітымі, з суцэльным сучасным навуковым сьветаглядам. Мэдфак БДУ, паводле агульнага прызнаньня, дае ўсё, што толькі даць можна ў сэнсе добрай клінічнай падрыхтоўкі і што да гэтага, дык маладыя дактары стаяць на вышыні свайго палажэньня. Трэба толькі яшчэ налегчы на выкладаньне гігіенічных і, ў прыватнасьці, сацыяльна-гігіенічных дысцыплін, каторыя, як яшчэ новыя ў нас прадметы, знаходзяцца, пакуль-што, у стане „самавызначэньня" і „шуканьня сьцежак". Урэшце, нідзе ў сьвеце малады доктар ня бывае зараз-жа пасьля сканчэньня курсу гатовы „на ўсе 100%" да працы. Гэта нікога не павінна палохаць. Напрактыкаванасьць прыдзе, была-б толькі добрая закваска.

Другая, значна меншая частка маладых дактароў, застанецца (у залежнасьці ад вольных месцаў) пры унівэрсытэцкіх клініках, інстытутах і установах, альбо, нават, пры буйнейшых больніцах. Гэта будучыя кадры спэцыялістых па розных галінах мэдыцыны. Спачатку спэцыялістыя будуць патрэбны толькі ў буйнейшых акруговых гарадох для загадваньня аддзяленьнямі больніц, для спэцыяльных прыёмаў і г. д. Па меры ўзросту культурнага ўзроўню і раён будзе дамагацца спэцыялістых. Калі і раённы доктар павінен быць добра падкаваны ў навукова і практычна-мэдыцынскіх адносінах, каб ня быць фэльчарам у сваёй працы, дык ад будучага спэцыялістага, ёсьць ведама, прыдзецца дамагацца ўменьня ня толькі вырашаць навукова-практычныя мэдыцынскія задачы, але і ставіць іх. Дзе-б ня прышлося ў далейшым працаваць спэцыялістаму—ён павінен будзе ісьці наперад у сваёй спэцыяльнасьці. У гэтым напрамку на яго будзе націскаць жыцьцё. За час свае трохгадовае ардынатуры ён, дзеля гэтага, павінен бязупынна знаёміцца з усімі мэтадамі дасьледваньня, дыягностыкі і лячэньня, з усімі лябораторнымі і клінічнымі прыёмамі, каб магчы ў будучай сваёй дзейнасьці прадоўжыць навуковую працу.

Нарэшце, апошняя, самая нязначная, частка пойдзе па сьцежцы спэцыяльнай навуковай і навукова-дасьледчае працы. Ад такіх адзінак будуць вымагацца зусім выключныя даныя. Ясна, што ад тых дактароў, якія ў будучым самі рыхтавацімуць дактароў, як раённых, так і спэцыялістых, і будучых навуковых працаўнікоў, трэба вымагаць, каб яны, хоць на працягу апошняга курсу („вылучэнцы" альбо „студэнты-асыстэнты"), паказалі сябе. У крайнім выпадку, ў канцы першага году ардынатуры, ці асьпірантуры яны павінны набыць неабходны мінімум у выглядзе уменьня чытаць навуковыя кнігі наогул, на 1-2 чужаземных мовах у прыватнасьці, ўменьня вольна выражаць свае думкі—ці то ў выглядзе гісторыі хваробы, ці то пратаколу, ці разгляду якога-небудзь выпадку. Нажаль, тут трэба зусім выразна сказаць, што падрыхтоўка да працы ў якасьці навуковага працаўніка вымагае ад маладога доктара, каб ён займаўся выключна навукаю, не адхіляючыся для сумясьціцельства, альбо заробку. Дзеля гэтага, вядома, пакуль дзяржава яшчэ ня можа даць вялікія сумы для такіх катэгорый, у лепшым палажэньні апынецца тыя з маладых лекароў, хто не абцяжаны сям'ёю, альбо ў сям'і якіх ёсьць іншыя зарабляючыя члены. Трэба таксама памятаць, што патрэба ў навукова-пэдагогічных сілах для аднаго толькі мэдфаку БДУ вельмі абмежавана. Для вызначэньня гэтае патрэбы, мы можам выкарыстаць цыфры М. Н. Пакроўскага для РСФСР. Каб падрыхтаваць зьмену для 11.000 навуковых працаўнікоў РСФСР трэба штогодна выпускаць 550 асьпірантаў. У прыстасаваньні да нашае запраўднасьці гэта значыць,

што на ўвесь мэдфак БДУ штогод будзе патрэбна ня болей як 5–6 будучых навукова-вучэбных працаўнікоў. Ясна, што пры адборы такой малай колькасьці, да кандыдатаў можна будзе падыйсьці з найбольш строгімі вымаганьнямі.

Ітак, трэба мець на ўвазе, што з усяе масы маладых навуковых працаўнікоў толькі невялікая частка магчыме прадаўжаць сваю працу ў мурох унівэрсытэту. Вядома, большыя шансы маюць асьпіранты пры тэорэтычных катэдрах, бо на іх большая патрэба. Усё гэта павінны памятаць маладыя доктары, якія канчаюць курс на мэдфаку, павінны зважаць на гэтае, каб усьцерагчыся ад расчараваньняў, якія будуць вынікаць з таго, што, пастаўленая сабе мэта, акажацца недасяжнай для данага таварыша. Аднак доктар з навуковаю жылкаю знойдзе магчымасьці, створыць сабе ўмовы для навуковае працы, дзе-б ён ні быў.

На заканчэньне, яшчэ некалькі словаў адносна неабходнасьці і для лекароў уменьня ўладаць дыялектычным, марксысцкім мэтадам. Нярэдка гэта разумеюць надта вульгарна і павярхоўна. Гэты мэтад ніякім чынам ня можа замяніць спэцыяльную веду ў тэй, ці іншай галіне мэдыцыны. Толькі глыбокае веданьне прадмету, у даным выпадку, навукова-практычнай мэдыцыны, дасьць магчымасьць прыстасаваць з карысьцю навукова-філёзофскі аналіз да фактаў і зьяваў. Гаворачы пра мэтавую устаноўку для тых, хто канчае курс на мэдфаку, мне хацелася і да гэтага, нярэдка няправільна ўразуметага, пытаньня дадаць больш яснасьці і вызначыць ягонае месца, ягоную „мэту“ ў адукацыі маладога доктара.

С. Радкевіч

## Да вынікаў працы навуковых гурткоў БДУ

Працу навуковых гурткоў БДУ мы павінны разглядаць у залежнасьці ад іх асноўных задач і мэт, аб якіх мы ў агульных рысах пісалі ў мінулы раз*). Даць правільную ацэнку становішчу работы гурткоў можна толькі тады, калі мы зважым, наколькі гурткі праз сваю працу набліжаюцца да задач і мэт, пастаўленых перад імі, і як правільна адбіваюцца гэтыя задачы ў працы гурткоў. З гэтым крытэрыям мы і будзем разглядаць становішча і працу навуковых гурткоў БДУ.

Навуковыя гурткі БДУ зарганізаваны ў канцы мінулага навуковага году, і ў пачатку бягучага, аднак праца іх пачалася толькі з кастрычніка бягучага навучальнага году. Такім чынам навуковыя гурткі працуюць толькі адзін акадэмічны год. Цяпер унівэрсытэт мае 10 гурткоў, якія ахапляюць каля 250 студэнтаў. На працягу гадовай працы гурткі стабілізаваліся ў сэнсе складу сяброў—больш няўстойлівая частка адсеялася. Засталіся толькі тыя, хто сур'ёзна адносіцца да гэтай працы. На факультэтах гурткі падзяляюцца такім чынам: на мэдфаку—4 гурткі з агульнай лічбай 120 сяброў (да сакавіка гэтага году на мэдфаку працавала 6 гурткоў, але 2 з іх, якія ахплялі ст-аў 5 курсу распаліся, дзякуючы падрыхтоўцы курсу да выпуску), на Правгасе—працуе 4 гурткі з агульнаю лічбай 100 сяброў (нядаўна арганізаваны яшчэ 1 гурток, але ён толькі распачынае працу і мы яго пад увагу не бярэм).

[1]) Глядзі „Шлях Студэнцтва“ № 4-5.

На Пэдфаку—толькі два гурткі ў якіх займаюцца 30 асоб, але тут мы павінны адзначыць, што значная колькасьць ст-аў працуе ў гуртках краязнаўчага т-ва. На прыродазнаўчым аддзяленьні, напрыклад працуе тры гурткі краязнаўчага таварыства. Гэтыя лічбы паказваюць, што навуковыя гурткі яшчэ ня сталі масавымі, бо лічба 250 складае прыблізна 10% агульнага складу ст-ва. Праўда, калі-б узяць пад увагу гурткі краязнаўчага т-ва і два гурткі студ-аў 5-га курсу мэдфаку, дык гэты процант значна павялічыўся-б. Аднак бясспрэчным застаецца тое, што пашырэньне гурткоў у бок большага абхопу студэнцтва пакідае жадаць шмат лепшага.

Што да самае працы, дык мы павінны адзначыць, што большасьць гурткоў займаецца звычайна раз у тыдзень; праўда, ёсьць адзін гурток, які на працягу першага паўгодзьдзя займаўся толькі два разы, але гэта тлумачыцца тым, што кіраўнік быў мала зацікаўлены і прышлося падшукаць новага Наведваньне сябрамі заняткаў даволі добрае—на 80—90% За год працы гурткоў мы маем выпадкі распрацоўкі ст-мі досыць сур'ёзных і цікавых дакладаў, якія па водгуках кіраўнікоў могуць быць зьмешчаны ў навуковых выданьнях.

Далей, мы маем вялікую зацікаўленасьць студэнцтва да працы ў гуртках, так напрыклад, на Мэдфаку студэнцтва дамагаецца організацыі гурткоў па тэрапіі і дзіцячых хваробах, на Правгасе ў адным гуртку займаецца больш 40 асоб, ня гледзячы на тое, што паводле статуту не павінна быць больш за 30 асоб. Частка навуковых працаўнікоў таксама выявіла вялікую цікавасьць да працы ў гуртках.

З усяго вышэйпаданага можна зрабіць наступны вывад: гурткі зьяўляюцца жыцьцёвай патрэбнасьцю студэнцтва; за год працы яны выявілі сябе як з боку організацыйнага так і з боку выкананьня і наблжэньня студэнцтва да задач і мэт пастаўленых перад гурткамі.

Для таго каб даць поўны малюнак трэба адзначыць і недахопы, якія выявіліся ў працы нав. гурткоў. Тут мы з-за недахопу месца абмяжуемся толькі пералічэньнем тых момантаў, якія перашкаджалі ў гэтай працы. Сюды належаць: слабае кіраўніцтва гурткамі з боку студэнцкіх організацый—акадэмкамісіі і прафкомаў, праўда не па іх віне, а па віне таго, што вылучаныя для гэтай працы т. т. не зразумелі сваіх задач і толькі ў пачатку другога паўгодзьдзя на работу гурткоў была зьвернена асаблівая ўвага (была праведзена нарада сяброў бюро гурткоў, некаторыя гурткі былі абсьледаваны). Больш значнай перашкодай у працы трэба лічыць арганізацыйную пабудову нашых гурткоў паводле прадметна-курсавога прынцыпу, бо кожны год прыходзіцца мець справу з новым складам удзельнікаў і гурткі зьяўляюцца тэрміновымі (што ўжо падцьвердзілася фактам: на мэдфаку 2 гурткоў не стала толькі таму, што яны ахаплялі ст. 5 курсу). Слабы вучот свае працы—некаторыя з гурткоў не вядуць запісу дакладаў, спрэчак, і наогул амаль ніякага вучоту свае працы, за выняткам адзнак аб наведаньні. Да недахопаў трэба залічыць і адсутнасьць сталага памяшканьня для работы некаторых гурткоў, з прычыны чаго іншы раз заняткі зрываліся; некаторы паралелізм у працы навуковых гурткоў з гурткамі краязнаўчага т-ва. Апошнім адмоўным момантам зьяўляецца тое, што некаторымі студэнцкімі працаўнікамі, а таксама часткай студэнцтва наогул ня досыць добра ўяўлены задачы і мэты навуковых гурткоў.

**І. Г.**

# Канфэрэнцыі—пэдагогічныя

„Канфэрэнцыя“ ў нашых часох слова такое-ж ходкае як „нафта“, напрыклад, альбо „сацыял-здраднік“. Розныя бываюць канфэрэнцыі: на аднэй амэрыканскі даляр заляцаецца да народаў Лацінскае Амэрыкі; на другой—польскі воўк, ідучы за прыкладам свайго крылоўскага пабратыма, пераконвае неразумную літоўскую авечку ў справядлівасьці яе загубы, самым лёсам празначанай; на трэйцяй, з узварушаючым расчуленьнем, вядуць гаворку аб бясьпечнасьці, разброеньні ды іншых, ня менш высокіх матэрыях; на чацьвертай... Аднак годзе ўжо. Ці пералічыш усялякія канфэрэнцыі?

Але і мы не абы-што! Не абмінулі і нас (іначай сказаць Пэдфаку) канфэрэнцыі. Праўда, у нас няма асаблівай пышнасьці, затое строгай крытыкі (не на жыцьцё, а на сьмерць!), ня меней як на найлепшай паважаючай сябе канфэрэнцыі. Называюцца яны—канфэрэнцыі пэдагогічныя. Ой, якая лютая, разбурваючая крытыка звальваецца на галаву студэнта, які першы раз у жыцьці даў практычную лекцыю ў школе.

А вы думаеце, таварышы, што даць „першую лекцыю“—гэта таксабе, нішто?

Калі-б вы маглі паглядзець на „засуджанага“ (з літасьці маўчым ужо пра „засуджаную“) пасьля поклічу школьнага звончыка, і перад тым як ён маецца ісьці ў клясу, дык лёгка запрыкмецілі-б пад маскаю халоднае павагі і нязьменнае саліднасьці „зайчык“ нэрвовага румянцу, што бегае па твары, і дробныя кропелькі поту на тужліва-шэрым носе.

Цяпер ён (студэнт гэты) чакае з нецярплівасьцяй суду над сваёю лекцыяй.

Заглянем і мы туды—на канфэрэнцыю матэматычную. Першае слова мае „абвінавачаны“. Стукаючы скрушана сябе ў грудзі, ён, не хаваючы нічога, апавядае аб заўважаных хібах... Пасьля, т. зв. афіцыяльны рэцэнзэнт з хірургічнай бязьлітасьцю выяўляе доўгі шэраг дробных і буйных недахопаў, пасьля раптам робіць лірычнае адступленьне па лініі „прымаючы пад увагу“ і завяршае чытаньне абвінаваўчага акту мягкім акордам—„лекцыю лічу здавальняючай“.

Пасьля спрэчак заключнае слова кіраўніка.

Апроч пэдагогічных заўваг, пачынаецца трапічная навальніца дыдактыкі: тут і колькасьць рухаў у сэкунду, і дыкцыя, і траэкторыя левай нагі, і кут лініі носу з гарызонтам, і жалю вартае палажэньне правай пяткі, і здрадлівы румянец, і падазроная бледнасьць, і надломаны голас, і бязраднасьць рукі пры поясе, і няправільны тэмп, і злачынная няўважлівасьць і яшчэ... і яшчэ... і яшчэ... Цэлы Монблян грахоў, хоць ты ляж ды памірай у самым росквіце студэнцкіх гадоў.

Але... гэта толькі кветачкі, а ягадкі—канфэрэнцыі па фізыцы.

Тут ужо літасьці ніякай; б'юць па ўсім фронце мэтодыкі; лекцыя аналізуецца з дэтальнасьцю, якой-бы мог пазайздросьціць любы нямецкі пэдант; кіраўнік т. С. высоўвае забіўчыя аргумэнты ў „адрыве ад жыцьця“, ў „ненавуковасьці“ ды іншых грахох, даючы разам з гэтым суровы прогноз аб вартасьці будучых пэдагогаў (на падставе аднае лекцыі!!!).

Але мэта дасягнена. Навічок аглушаны, настрой сапсаваны, ён зьняверыўся ў сваіх пэдагогічных здольнасьцях. Вы скажаце: „але студэнты-ж нездаволены з ператварэньня канфэрэнцый у „паказальны суд“?

Эх, таварышы, нешта студэнтам можна дагадзіць? Надта-ж неспакойны народ!

**Н. Герт**

# Палепшыць якасьць

Адным з асноўных недахопаў нашай вучобы зьяўляецца адсутнасьць новых вучэбных падручнікаў. Да чытаемых у нас на Правгасе дысцыплін іншы раз прафэсура затрудняецца рэкамэндаваць падручнік, які-б цалкам адпавядаў марксысцкаму тлумачэньню ўсіх высоўваемых да вывучэньня этапаў па той ці іншай дысцыпліне.

Так напрыклад: па „Гісторыі Расійскага права" ёсьць падручнікі Дзяканава, Філіпава, Маліноўскага, Сергеевіча і інш. Але ўсе яны наогул і па заяве выкладчыка ні ў якім разе не адпавядаюць новым поглядам тлумачэньня гісторыі, а даюць, як кажа праф. Пічэта, толькі факты, да якіх трэба адносіцца вельмі і вельмі крытычна.

Яшчэ горш з „Гісторыяй Беларускага права". Тут акрамя таго, што няма ніякіх падручнікаў у сыстэматызаваным відзе, яшчэ цэлы шэраг этапаў зусім не распрацаваны (эпоха пасьля 16 стагодзьдзя, палітыка русіфікацыі пасьля падзяленьня Рэчы Паспалітай і г. д.).

На чым-жа, вучыцца? Навічку студэнту, вельмі цяжка разабрацца ў шэрагу фактаў даваемых старымі гісторыкамі і самастойна выводзіць правільную думку. Трэба спачатку навучыцца падыходзіць з крытычным мэтодам марксызму, а потым працаваць над гэтымі падручнікамі.

Застаецца толькі надзея на сваю памяць пры слуханьні лекцыі. Запісаць-жа на лекцыі ўсяго не пасьпееш. У лепшым выпадку знаходзяцца стэнаграфісткі, які, самі сабе запішуць лекцыі, і заробяць, прадаваючы іх студэнтам. Але і на гэтыя запіскі нельга спадзявацца. Напрыклад, у аднэй з іх можна было прачытаць *„Указ об вольных либералах (?!) был издан в 1863 году (?!)*. Падобныя запіскі толькі блытаюць.

Запытаньне на новыя падручнікі для ВНУ вялікае, а іх няма. Мы прапануем, пакуль іх нельга яшчэ напісаць і выдаць, зрабіць наступнае: па тым, дысцыплінам па якім няма новых пэўных падручнікаў, паклапаціцца дэканатам скласьці сыстэматычныя стэнаграфічныя запіскі лекцый прафэсароў, апрацаваць іх і надрукаваць хаця-бы з дапамогай студэнтаў. Такія запіскі-стэнаграмы разьмеркаваць ў патрэбнай колькасьці па габінэтам.

Гэта будзе першымі ўводзінамі ў вывучэньне адпаведнай дысцыпліны і дасьць мэтад для далейшай працы над маючымся матэрыялам, дабіўшыся хоць частковага паляпшэньня якасьці вучобы.

# НАВУКОВЫ АДДЗЕЛ

**Е. Ш.**

## Ответ интерпретаторам диалектики

Вопрос о сущности диалектики, поднятый мною на страницах нашего журнала, нашел оживленный отклик. Я позволю себе, насколько мне отведено места, ответить на те недоуменные вопросы, которые были поставлены критиками, вопросы, вызванные порой искажением моих мыслей.

Тов. *Е. Гинзбург* в своей статье „диалектика дыбом" (заглавие сей статьи, видать, соответствует мыслям в ней превозглашенным) утверждает, что марксизм не снимает с порядка дня гносеологической проблемы. В каком смысле я говорил о снятии гносеологической проблемы марксизмом, он не позволил себе даже продумать. Гносеологическая проблема была снята диалектикой в той форме, в которой ее классически воспроизвел Кант. Взаимоотношения „явления" и „вещи в себе", отрыв *посюстороннего и потустороннего*, знания и бытия—стали альфой и омегой критической философии. Действительная вещь оказалась вне пределов знания. Наука должна была иметь дело исключительно с наглядными представлениями. Диалектика сняла эту проблему тем, что приняла следующую формулировку: *мышление обладает знанием бытия, ибо в самом мышлении дано содержание бытия.* Вещь и содержание мышления не лежат по разные стороны. В каждом моменте познания мышление овладевает бытием, обладает истинным знанием бытия. Знание не дано помимо знания бытия; новое знание, представляя себе бытие иным образом, не уничтожает прежних овладеваний, но лишь только *ограничивает их применение.* Действительность не дана помимо знания ее, знание же есть исключительно знание действительности. Несомненно, такое понимание не снимало основной гносеологической проблемы, именно: вопроса аб отношении мышления к бытию. В данном случае и марксистская диалектика решила этот вопрос, выбрав определенный исходный пункт. Марксизм заострил вопрос не о существовании бытия (это почти всеми принято), а о *характеристике содержания бытия.* Он поставил вопрос: что дает возможность бытию быть одновременно и *многообразием и единством?* Этот вопрос не современный; недаром древность вкладывала в уста Зевсу вопрос: „как все должно статься для меня единым и однако же каждое остаться особым. Этот вопрос диалектическая философия, плохо-ль, или хорошо, но разрешила. Мы, исходя из того, что теория познания была принята марксизмом в виде познанного бытия и писали, что этим самым она из теоретической проблемы перешла в область историческую. *Но гносеологию не нужно смешивать с логикой.*

При таком смешении спутываются две совершенно различные области.

Предметом логики является знание, истинное знание, выраженное в понятиях, суждениях и т. д.

Превращать логику в историю—значит отказаться от признания истинности суждения. Диалектика, отказавшись от формальной логики, как метода познания многообразной, противоречивой в своей сущности действительности, вовсе не стала на точку зрения алогизма—неверия в суждение, как знание бытия. Диалектика отказалась от абсолютных утверждений старой логики; она абсолютные утверждения превратила в суждения относительные верные в своих пределах, но она вовсе не отказалась от суждения, как истинного знания. Истина остается истинной, несмотря на ограничение ее утверждений. Такое смешание гносеологии с логикой произошло по нашему мнению, в статье *т. Быховского* (см. журнал „Шлях студэнцтва“ № 2-3).

По *т. Быховскому* идиалектическая логика должна стать предметом истории; для нас-же остается вневременная и абсолютная истинность ее доказательств.

Формальная логика входит в состав диалектической.

„Последняя по времени философия есть результат всех предшествовавших философий и должна поэтому содержать их все“. (Гегель. Энциклопедия § 13).

Вторым предметом нападок было выраженное мною положение о взаимоотношении абстрактного и конкретного. Для т. Гинзбурга многообразие мира дано в *непосредственном представлении*, и сущность науки заключается в оформлении единства данного многообразия. Эта точка зрения вытекает из сенсуализма, по которому нам непосредственно в ощущении дано многообразие мира. Такое понимание забывает, что наука не есть исключительно путь нахождения единства в конкретном, но есть одновременно конкретизация это единства. *Действительность вовсе не дана нам, как законченное многообразие, завершенное различие единичного.* Действительность нам дана одновременно, как относительно общее и относительно единичное. Для завершения такого различия, полнейшего индивидуализирования любого явления, необходимо было бы, чтобы об'ект был нам дан всегда во всех своих соотношениях, опосредствованиях, ибо в них только и вскрывается многообразие мира. Познание есть изучение текущего (во времени) бытия, т. е., конкретного. Но для того, чтобы стать конкретным, *действительность должна наполняться содержанием*, т. е. стать многообразием; принятие противоположного означало бы, что действительность, как многообразие, закончена, что конкретизация действительности завершена. Логический процесс осваивания действительности, нисхождение от наиболее абстрактной всеобщей категории к наиболее насыщенным, отличается от самой действительности. Последнюю мы мыслим, как полноту всех своих определений, единство всех своих определений. Поэтому логический путь создания конкретного не означает ее временного творения (что приписывают мне критики); он означает лишь осваивание действительности, как конкретного. Между тем действительность не дана нам, как законченное конкретное. Действительность не представляется нам, как актуально существующая (в настоящий момент) полнота всех определений.

Полнота определений (законченная индивидуализация) мыслится нами *потенциально содержащейся в действительности.* Законченность мира, как многообразия, есть лишь только *возможность.*

Теперь тов. *Голуб* поймет неуместность своей иронии по поводу сказанных мною слов: „действительность до определения есть чистая безопределенность лишь возможность определений“.

Конкретность, как потенциальная законченность мира—многообразия, дана всегда неполной.

Через систему определений действительность становится индивидуализированным бытием. Под системой же определений я, как всегда, понимал те категории, которые характеризуют об'ект не только как индивидуальность (отличие от других об'ектов), но и как единство (общность).

Абстракцией поэтому мы назовем то определение действительности, которое дано нам как вневременное единство, при помощи которого происходит осваивание текущего во времени бытия.

Сами определения, взятые вне действительного многообразия, как бы предшествуют конкретному бытию. *В действительности абстракция находится в самом конкретном, реализуя его как конкретное;* общее—абстрактное и конкретное—многообразие представляют собой, как бы, два момента самой действительности.

Действительность есть, с одной стороны, *реальное многообразие;* в этом случае конкретизация всеобщего—абстрактного понятия отражает собой многообразия самой действительности.

Бесконечность методов знания определяется бесконечным многообразием самого бытия.

С другой стороны *действительность есть возможная (потенциальная) законченность многообразия;* с этой точки зрения бесконечность методов познания реализует бесконечное многообразие самого бытия.

Диалектика должна синтезировать эти два момента: диалектику понятий и диалектику бытия. Отсюда вытекает то, что диалектика отказывается признавать за знанием абсолютное отражение самой действительности.

Наука теряет характер приближения знания к действительности.

*Путь отражения синтезируется с путем построения действительности.* Для т.т. *Гинзбурга и Голуба* мир лежит по ту сторону познания со всем богатством своих определений. Для нас содержание действительности не лежит, как абсолют, по ту сторону знания; оно, с одной стороны, строится самим знанием. Только в этом случае возможно совмещение *противоположных* суждений относительно *одного и того-же об'екта.*

Синтез моментов диалектического мышления и диалектики бытия, как тождество противоположностей, должен снять все обвинения в идеализме и прочих смертных грехах, выдвинутых против меня тов. *Голубом.*

Тов. *Голуб* пытается свалить в одну кучу махистов, об'ективных идеалистов и пр., не давая себе труда продумать то, что в основном мое выступление было направлено против алогизма и психологизма.

Требование истинных суждений, научных определений как-то не вяжется с махизмом. Комплексы ощущений и система научных категорий две совершенно различные вещи. Мир, как многообразие, есть нечто большее, чем сумма ощущений суб'екта. Есть тьма охотников смешивать эти два понятия, но я не из их числа.

Если первые (комплексы ощущений) носят исключительно *суб'ективно-психологический* характер, то последние (система научных категорий), наоборот, лишены этой непосредственности. Психологические понятия гораздо более бедны содержанием, нежели система научных определений об'ектов—*познание их во всех связях и опосредствованиях;* первые этого дать не могут.

Для меня научное знание есть *действительное* знание, и лишено формы приспособления биологического суб'екта к внешней среде.

Истинно не только потому, что дает возможность воздействовать на внешний мир, но и возможность действования зависит от *истинности* утверждения.

Научные определения вовсе не подчиняются суб'ективно-психологической необходимости, зависящей от различия в восприятии различных суб'ектов, а имеет форму сверх'индивидуальной необходимости.

Под суб'ектом я понимаю не индивидуально-психологический суб'-ект, но науку, строящую знание.

Наука же есть нечто большее, чем сумма биологических суб'ектов.

На этом заканчиваю свой краткий ответ. Сожалею, что не мог коснуться содержательной, но, увы, неполной статьи т. *Лейбовича* „за диалектическую логику"; надеюсь, что мне удастся в ближайшем номере нашего журнала коснуться этого вопроса.

---

**С. Брук**

# Новый способ решения уравнений

Найденный мною способ решения применим исключительно для нахождения вещественных (рациональных и иррациональных) корней.

## I. Нахождение рациональных корней.

1. Нахождение рациональных корней основано на следующем:

Если в некоторой алгебраической функции $f(x)$ дать аргументу $x$, произвольное по своей абсолютной величине и знаку, постоянное приращение $h$, то старая функция $f(x)$ и новая $f(x+h)$, будучи приравняемы нулю, удовлетворяются различными значениями неизвестного, причем корень уравнения $f(x+h)=0$ будет меньше корня $f(x)$ на величину прироста $h$.

Если корень уравнения $f(h)=0$ есть $a$, то корень уравнения $f(x)=0$ будет $a-h$.

Доказать эту теорему, я считаю возможным следующим образом:

Всякая функция может быть представлена ввиде произведения разностей между неизвестным и корнями (каждым в отдельности) на коэффициент при старшем члене функции.

Так: $f(x)=a_0\,(x-a)\,(x-b)\,(x-c)\,.\,.\,.\,.\,(x-k)=0.$

Точно так же $f(x+h)=a_0\,(x+h-a)\,(x+h-b)\,(x+h-c)\,.\,.\,.\,.(x+h-k).$

Приравняв $f(x+h)$ нулю, напишем его в таком виде:

$$f[x+h]=a_0\,[x-(a-h)]\,[x-(b-h)]\,[x-(c-h)]\,.\,.\,.\,.\,[x-(k-h)]=0.$$

Откуда, следовательно, заключаем,— что корни вместо прежних $a, b, c, \ldots . k$ будут: $a-h,\ b-h,\ c-h \ldots . k-h.$

Таким образом, теорема доказана. Корень функции уменьшается на величину прироста аргумента.

2. Исследуем теперь чрезвычайно важное следствие данной теоремы.

Пусть снова имеем алгебраическое уравнение $f(x)=0$, один из корней которого есть $a$.

Дадим $x$—су прирост $a$, то-есть равный, по абсолютной величине и знаку, корню уравнения; тогда очевидно, что корень уравнения $f(x+a)=0$ есть нуль $(a-a)$ или, иначе говоря, в функции $f(x+a)$ будет отсутствовать свободный член.

3. И наоборот: если алгебраическая функция $f(x+k)$ равна нулю при $x=0$ (не имеет свободного члена), то прирост $k$ есть корень уравнения $f(x)=0$.

Используем это последнее для нахождения рациональных корней.

Имея уравнение: $x^n+a_1x^{n-1}+a_2x^{n-2}+a_3x^{n-3}+\ldots+a_n=0$,

приведенное к нормальному виду, приступаем к нахождению границ (по способу Ньютона); затем выписываем все множители свободного члена $a_n$ и делим $f(1)$ на каждый из множителей без единицы и $f(-1)$ на каждый из множнтелей плюс единица.

Все оставшиеся множители могут оказаться корнями нашего уравнения. Далее мы их испытываем по изложенному мною способу.

Допустим, что все возможные корни есть: $\alpha, \beta, \gamma, \delta \ldots \nu$, тогда, составляя уравнения $f(x+\alpha)=0; f(x+\beta)=0; f(x+\nu)=0; \ldots; f(x+\nu)=0$, мы заключаем какой из множителей $\alpha, \beta, \gamma, \delta \ldots \nu$ есть корень уравнения $(fx)=0$.

4. *Пример*: Найти рациональные корни уравнения

$$f(x)=x^3-2x^2+x-2=0.$$

Все возможные корни суть: $\pm 2$, $\pm 1$. Составляем уравнение $f(x+2)=0$. Получим: $f(x+2)=x^3+6x^2+12x+8-2x^2-8x-8+x+2-2=0$. Очевидно, что свободного члена в этом уравнении нет. Следовательно $2$ есть корень уравнения $f(x)=0$. Таким же путем можно найти и все остальные корни (рациональные) нашего уравнения.

5. Особенно легко обстоит дело с нахождением кратных корней (также рациональных).

Пусть $f(x)=x^3+6x^2+12x+8=0$ есть уравнение 3-ей степени, в котором—$2$ есть трехкратный корень этого уравнения. Составляя уравнение $f(x+a)=0$, где $a$ есть все возможные корни уравнения $f(x)=0$, мы, наконец, наталкиваемся на $a=-2$.

Тогда: $f(x-2)=(x-2)^3+6(x-2)^2+12(x-2)+8=0$.

Или: $x^3-6x^2+12x-8+6x^2-24x+24+12x-24+8=0$.

Или после приведения подобных получаем: $x^3=0$. Откуда, следовательно, руководствуясь соображениями, изложенными в § 3, заключаем, что—$2$ есть трехкратный корень уравненяя $f(x)=0$.

## II. Нахождение иррациональных корней.

6. Нахождение иррациональных корней основывается на теореме, которая, некоторым образом, сходна с теоремой, приведенной в § 1.

Если в алгебраической функции $f(x)$ аргумент разделить на некоторое произвольное по абсолютной величине и знаку постоянное $h$, то новая функция $f(\frac{x}{h})$ и старая $f(x)$ будут иметь различные корни,

причем: корни $f(\frac{x}{h})=0$ равняются корням уравнения $f(x)=0$, помноженным на $h$.

Расположим для доказательства нашу функцию снова ввиде произведения коэффициента при старшем члене на разности между неизвестным и каждым из корней уравнения в отдельности, так:

$$f(x)=a_0(x-a)(x-b)(x-c)\ldots(x-k)=0,$$

тогда новая функция будет:

$$f\left(\frac{x}{h}\right)=a_0\left(\frac{x}{h}-a\right)\left(\frac{x}{h}-b\right)\left(\frac{x}{h}-c\right)\ldots\left(\frac{x}{h}-k\right)$$

Приравняв нулю, напишем последнее ввиде:

$$f\left(\frac{x}{h}\right)=a_0(x-ah)(x-bh)(x-ch)\ldots(x-kh)=0.$$

Откуда следовательно заключаем, что корни уравнения

$$f\left(\frac{x}{h}\right)$$

по сравнению с корнями $f(x)$ увеличились в $h$ раз; так вместо прежних корней $a, b, c, \ldots k$, имеем $ah, bh, ch, \ldots kh$.

7. Эту особенность алгебраических функций можно легко использовать для нахождения иррациональных корней уравнения с любой степенью точности.

Если мы составим новое вспомогательное уравнение

$$f\left(\frac{x}{10^3}\right)=0,$$

то получим уравнение, корни которого в тысячу раз больше корней нашего старого уравнения $f(x)=0$.

Отделим теперь корни вспомогательного уравнения

$$f\left(\frac{x}{10^3}\right)=0 \text{ (по способу Штурма).}$$

Мы, следовательно, найдем два числа, розняшиеся друг от друга на одну единицу, между которыми находится корень нашего вспомогательного уравнения; *деля* теперь эти две границы на $10^3$, мы отделим корень, который по своей величине будет в 1000 раз меньший, т. е., отделим корень нашего уравнения $f(x)=0$, при чем два числа, между которыми содержится искомый корень, будут розниться друг от друга меньше, чем на одну сотую. Взявши теперь одну из этих границ, мы можем убедиться, что это есть корень уравнения $f(x)=0$, исчисленный с точностью до одной сотой.

Так например:

$$f(x)=a_0x^n+a_1x^{n-1}+\ldots+a_n=0.$$

Чтобы найти иррациональные корни, надо составить вспомогательное уравненне. Если, напр., нужно найти с точностью до $0,01$, составляем уравнение:

$$f\left(\frac{x}{10^3}\right)=\frac{a_0x^n}{10^{3n}}+\frac{a_1x^{n-1}}{x^{3n-3}}+\ldots+a_n=0.$$

Отделивши, найдем, что $\alpha+1>x>\alpha$, тогда следовательно корень уравнения $f(x)=0$, вычисленный с точностью до $0,01$ заключается между

$$\frac{\alpha+1}{1000} \text{ и } \frac{\alpha}{1000}.$$

Любую из этих величин можем считать корнем уравнения $f(x)=0$.

Способ для нахождения рациональных корней, на мой взгляд, достаточно прост и удобен. В частности, для нахождения кратных корней.

Способ-же для нахождения иррациональных корней сопряжен с некоторыми неудобствами: отделение корней, ввиду увеличения коэфициентов, становится немного затруднительным.

Но на мой взгляд, он все-ж таки легче методов Ньютона и Греффе, как с теоретической, так и с практической стороны.

---

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

*У нумары 4-5 часопісі „Шлях Студэнцтва" быў зьмешчаны артыкул „Тое сёе пра фізыку" за подпісам П. Я. Згаджаючыся з аўтарам, што пастаноўка практыкума па фізыцы жадае шмат лепшага, мы студэнты IV курсу фізмата лічым патрэбным заявіць, што практычныя заняткі па радыё-тэхніцы зьяўляюцца выключэньнем.*

*Заява аўтара, што практыкум па радыё-тэхніцы—„гэта ёсьць практычная праца толькі на паперы"—няправільна. Ня гледзячы на недахоп некаторых прыбораў і малай колькасьці гадзін адведзеных дэканатам для гэтай працы, усё-ж, дзякуючы ўважлівым і дабрасумленным адносінам кіраўніка, праца дала вельмі шмат студэнтам, прарабіўшым ўсе заданьні.*

*Досыць паказаць на тое, што студэнты, прапрацаваўшыя практыкум, могуць скласьці любую складаную схэму радыё-прыёмніка.*

**Сьледуе 20 подпісаў**

---

# ШАХМАТЫ

**пад рэдакцыяй С. БЛЮМБЭРГА**

**Эцюд № 3**
**Н. Россоліма**
(V прыз „Шах. Листка")



**Б.** Кр а5, Л h8, п h6 (3)
**Ч.** Кр. а3, Л g6, п g7 (3)
Белыя выгрываюць

**Эцюд № 4**
**N N**



**Б.** Кр b5, С g5, п а4, b2, b6, d4 (6)
**Ч.** Кр f1, п b7, d6, d5, g3, h3 (6)
Белыя робяць нічыю

**ПАРТЫЯ № 5**
Іграная ў апошнім туры чэмпіонату Ун-ту

| **С. Блюмберг** | **Д. Кузьмінскі** |
|---|---|
| 1. d2—d4 | d7—d6 |
| 2. e2—e4 | К b8 d7 |
| 3. К g1—f3 | g7—g6 |
| 4. С f1—c4 | С f8—g7? |
| 5. С c4 : f7+! | Кр e8 : f7 |
| 6. К f3 -g5+ | сдался |

Калі Кр. e8(f8,) то К g5 -e6(+);
Калі Кр f6, то Ф d1—f3×

Адказ на задачу № 3. Р. Morphy
(Б. Кр. f8, Л h1, п g6; Ч. Кр h8, С g8, п g7, h7)
1. Л h1—h6!

Адказ на задачу № 4. М. Зарэцкі.
(Б. Кр d1, Ф а7, С b1, К d3, c2, п h7; Ч. Кр h8, п c3).

| | |
|---|---|
| 1. К d3—b2! | c3 : b2 |
| 2. К c1—a1! | b2 : a1 Ф |
| 3. Ф а7 : a1× | |

Для пачатку зусім здавальняючая композыцыя.

Правільныя адказы на абедзьве задачы прыслаў т. Герт Н. і на задачу № 3—т. Казлоўскі С.


Адказны рэдактар *М. Ц. Баран.*
Нам. рэдактара *І. Б. Эфрон.*
Рэдкалегія: *Гітліц В., Голуб І., Кругэр М., Мацейчык, Мэклер С., Пшонка П. Шматкоў А.*

